


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 24 (3031) Год LIX | Беласток, 15 чэрвеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Першы беларускі пікнік у ШЧЫТАХ

**Першы беларускі пікнік «Маёвыя сустрэчы ў Шчытах — 2014», адбыўся 25 мая ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты». Паколькі было гэта сямейнае мерапрыемства, з дзеткамі, што мелі выступаць на сцэне, прыехалі іх бацькі, бабулі і дзядулі. Ад сонца сабраныя хаваліся ў цяні дрэў вакол прыгожа адрамантаванага колішняга школьнага будынка, у якім цяпер працуе цэнтр «Шчыты». Распалажаны ён наўскос ад даўняй, драўлянай царквы, што робіць гэтае месца яшчэ больш незвычайным.**

— Тут вельмі прыгожае месца для пікніка. Людзі могуць паслухаць беларускія песні, паразмаўляць. Школьны будынак пуставаў і нішчэў. Звяз беларускай моладзі рашыўся яго выкарыстаць для дзейнасці ў карысць мясцовага насельніцтва, развіцця беларускай культуры і захоўвання нашых традыцый. Сёння відаць рэзультаты дзейнасці Звязу пад кіраўніцтвам Ігара Лукашука. Калі людзі хочуць дзейнічаць у карысць мясцовага насельніцтва і ведаюць як рэалізаваць свае планы, то можна многаму дабіцца, — сказаў яшчэ да адкрыцця пікніка віцэ-стараста Бельскага павета Пётр Божка.

Пікнік адкрыў старшыня Звязу ў карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» Ігар Лукашук. Гаспадар Арлянскай гміны, на тэрыторыі якой праходзіла маёвая сустрэча, войт Пётр Сэльвесюк пахваліў ініцыятыву цэнтра «Шчыты» ладзіць мерапрыемства для дзетак, моладзі і старэйшых асоб. На пікнік прыбыў таксама старшыня Арлянскай гміннай рады Аляксандр Клін.

Першымі на сцэне побач будынка цэнтра выступілі дзеткі з беларускага калектыву «Лянок» Непублічнага прадшколля імя св. дзіцяткі Гаўрыла ў Бельску-Падляшскім, якія вельмі прыгожа праспявалі беларускія песні. Пасля на танцавальнай пляцоўцы каля сцэны малечы станцавалі народны танец з хусткамі. Дашкольнікі захапілі публіку, якая горача ім апладзіравала.

— Прыгожыя хусткі дзеткі ўзялі ад сваіх бабуль. Яны састаўляюць важнае папаўненне народнага танца. У нашых дзетак ёсць таксама тэатральныя здольнасці. У мінулым годзе яны здабылі Гран-пры беларускага тэатральнага агляду для дашкольнікаў і вучняў, — сказала Марта Зінкевіч, якая разам з Іааннай Хількевіч падрыхтавалі калектыў «Лянок» да выступаў у Шчытах.

Арганізатары пікніка з дапамогай Бельскага музея наладзілі дашкольнікам майстар-класы па выкананню ўзораў даўніх ручнікоў. Дзеткі маглі пазнаёміцца з раслиннымі матывамі і даўнімі ўзорамі, якія захаваліся на старых ручніках. Малечы пад наглядам настаўніц і бацькоў разгортвалі мануальныя ўмеласці і перш за ўсё добра гулялі.

— Дзеткі малююць матывы з даўніх ручнікоў і я захоплена іх працамі, — заявіла кіраўнік Бельскага музея Аліна Дэмбоўская, якая паказала дашкольнікам узоры ручнікоў. Прывезла яна ў Шчыты частку выставы «Захаваць ад забыцця — ахова абрадавага ручніка ў Бельскай гміне».



Дашкольнікі з калектыву «Лянок» станцавалі народны танец з хусткамі

Чарговым выканаўцам былі дзяўчаты з калектыву «Фермата» Арлянскай белгімназіі, якія выступілі з эстраднымі песнямі. Неапрацаваны фальклор прадставілі «Малінкі» з Маліннік, якія таксама падрыхтавалі пачастунак для ўдзельнікаў пікніка. Прывезлі яны каравай і традыцыйныя вясковыя харчы, якімі частавалі сабраных.

— Я ўстала на світанні, каб падрыхтаваць вырабы. Асаблівай увагі заслугоўвае каравай, прыаздоблены гускамі. Прапаную традыцыйныя аладкі, прыкрашаныя скваркамі, — сказала Вера Нічыпарук, кіраўнік калектыву «Малінкі».

Мерапрыемства вяла Ілона Карпюк-Дамброўская. Расказвала яна пра дзейнасць і поспехі выступаючых калектываў, прапанавала сабраным пакарыстацца іншымі атракцыёнамі пікніка — напрыклад, купляць народнае рукадзелле. Прэзентавалі яго Зоя Майстровіч з Рудутаў і Хрысціня Грыгарук з Орлі.

— Многа маіх вырабаў з саломкі купляе оптам прадпрымальнік з Познані. Посудам з саломы і іншымі вырабамі цікавяцца таксама турысты і пакупнікі падчас беларускіх фэстаў, якія я наведваю летам, — заявіла Зоя Майстровіч.

Хрысціня Грыгарук прапанавала посуд і сувеніры, выкананыя з паперы і дроту.

— Няма яшчэ ў нас традыцыі ладжання сямейных пікнікаў, падчас якіх сем'і маглі б рассесціся са знаёмымі на пакрывале, пагасцяваць, паглядзець выступы калектываў і паслухаць беларускія песні. Таму мы рашыліся наладзіць першы сямейны беларускі пікнік. Месца тут вельмі прыгожае, растуць старыя дрэвы. Хочам яшчэ давесці да парадку вялікі стары сад, каб праз год на патрэбы пікніка можна было адвесці яшчэ большую пляцоўку, — сказаў старшыня Цэнтра адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» Ігар Лукашук.

На мерапрыемства прыбылі войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк і калектыў Чыжоўскага гуртка пенсіянераў і інвалідаў, які выступіў пад назвай «Верасы» (хаця імпрэза ў Чыжах, падчас якой меў ён афіцыйна атрымаць гэтую назву, была наперадзе).

— Мы ўжо ў старэйшым, асеннім узросце і падумалі, што для нашага калектыву падыходзіць назва асенніх верасоў. Найчасцей спяваем неапрацаваныя народныя песні нашых вёсак. Нам, пенсіянерам, таксама патрэбны спеў. Падчас рэпетыцый і выездаў можам паразмаўляць на розныя тэмы і адарвацца ад штодзённасці, — сказалі чыжоўскія спявачкі, якія для ўдзельнікаў пікніка падрыхтавалі, між іншым, хлеб з салам і шмальцам ды пячэнне.

З больш моцнай музыкай і патрыятычнымі беларускімі творамі на высокім узроўні запрэзентаваліся дзяўчаты з калектыву «Астэрыя» Дома праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім. Яшчэ да выступу дапамагалі яны падрыхтаваць выступоўцам пачастунак у мураваным будынку цэнтра. Панаваў у ім халадок, якога асабліва патрабавалі ў вельмі цёплы дзень старэйшыя выканаўцы.

Ад пачатку мерапрыемства ўдзельнічалі ў ім члены беларускага калектыву «Арляне» з Орлі.

— Сёння мы выступаем першы раз пасля Вялікадня, таму можна сказаць, што гэта інаўгурацыя нашых вясенніх выступаў. Праз два гады будзем адзначаць 70-годдзе дзейнасці нашага калектыву, у аснову рэпертуару якога пакладзены беларускія песні, — сказалі Вера Таранта і Тамара Русіновіч з «Арлян». Віталій Соха з Тапароў, які ўжо некалькі гадоў належыць да арлянскага калектыву, звярнуў увагу на танцы, якія выступленні калектыву робяць больш займальнымі (у Шчытах калектыў з Орлі выступіў менавіта з песнямі і танцамі).

З беларускім эстрадным рэпертуарам выступіў Беларускі хор песні і танца «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага («Арлянамі» і «Васілёчкамі» апякуецца Мікола Фадзін з Гродна). Калектыў «Вэрвачкі» з Орлі запрэзентаваў апрацаваныя народныя песні, а гурт «Тры пальцы» выступіў з песнямі на розных мовах. Анна Несцярук, дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі, які быў суарганізатарам пікніка, выказала радасць ад выступаў усіх арлянскіх калектываў, якія займаюцца ў мясцовым асяродку культуры. Калектыў «Хутар» з Гарадка таксама запрэзентаваў беларускі рэпертуар.

— Я прывёз сюды ўнучку, якая выступала ў калектыве «Лянок». Бачу, што тут вельмі цікавая імпрэза. Можна паслухаць песні, паразмаўляць, купіць сувеніры. Гэта намнога лепш, чым сядзець перад тэлевізарам, — сказаў Ян Пятроўскі з Пасынак.

Ягонаму субяседніку Яну Якімчуку таксама спадабаўся шчытоўскі пікнік.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**







# Граблі на выпаленай зямлі

На беларускім палітычным полі, якое хутчэй нагадвае выпаленую зямлю, прабіваюцца першыя сціплыя парасткі прэзідэнцкай кампаніі 2015 года. У масавай свядомасці ўжо трывала замацаваны стэрэатып пра „вечнасць" кіравання цяперашняга кіраўніка дзяржавы. Так што правядзенне чарговай прэзідэнцкай кампаніі мае хутчэй рытуальны характар. Уладзе патрэбна аформіць знешнюю легітымізацыю ў выглядзе прэзідэнцкай абгорткі. Яна, улада, ужо даўно адрэпетавала свой ашуканскі спектакль пад назвай „выбары". Апазіцыі ж трэба прадэманстраваць тое, што яна яшчэ жывая і дзейсная. Прадэманстраваць электарату і напэўна самой сабе. Бачанне шляхоў удзелу тут рознае.

Збольшага маем тут дзве пазіцыі. Адны лічаць, што дэмакратычнай кааліцыі патрэбен моцны адзіны кандыдат, іншыя даводзяць, што прэтэндэнтаў павінна быць як мага болей дзеля правядзення шырокай інфармацыйнай кампаніі. Усё гэта мы ўжо праходзілі ў найноўшай гісторыі. У 2001 годзе быў адзіны кандыдат ад апазіцыі. Ды такі адзіны, што нікому і ўспамінаць не хочацца. У 2006 годзе былі два дэмакратычныя вылучэнцы. Адзін з іх не зрабіў нічога істотнага, хоць многія людзі паверылі ў яго, а іншы — Аляксандр Казулін — адсядзеў за сваю рашучасць у турме. Але найбольш паказальнай была апошняя прэзідэнцкая кампанія — 2010 года. Яе цяжкія наступствы дэмакратычная супольнасць не перажыла дагэтуль. А адзін з кандыдатаў у прэзідэнты Мікола Статкевіч ужо тры з паловай гады зняволены ў вязніцы. І пасутнасці найперш за тое, што адважыўся кінуць асабісты выклік Аляксандру Лукашэнку. А гэта азначае, што той, хто мае намер балатавацца ў прэзідэнты ад апазіцыі, мусіць быць гатовы ісці за свае перакананні і дзейнасць як мінімум у турму, а па вялікім рахунку — на смерць. Ці многа знойдзецца такіх ахвярнікаў?!

Супраць адзінага кандыдата рэзка выступіў старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі Уладзімір Колас. Але крытыкуючы іншых палітыкаў, ён пасутнасці нічога не прапанаваў канструктыўнага. Першы кіраўнік незалежнай Беларусі і старшыня партыі БСДГ Станіслаў Шушкевіч адназначна выказаўся, што ніякіх прэзідэнцкіх выбараў фактычна не будзе. Сапраўды, спадзявацца на тое, што будзе дазволена шырокая агітацыйная кампанія, як гэта было ў 2010 годзе, не выпадае. Тады, у 2010 годзе, дзякуючы кароткачасовай передвыбарчай адлізе, адзін з апазіцыйных кандыдатаў Андрэй Саннікаў набраў вельмі вялікую папулярнасць. Больш дзяржаўная ўлада сабе і апазіцыі такіх эксперыментаў не дазволіць. А значыць адпадае сэнс інфармацыйнай працы з насельніцтвам, якая будзе звужана да мінімуму.

Тыя ж, хто выступаюць за вылучэнне значнай колькасці дэмакратычных кандыдатаў, нічым сваіх слоў не падмацоўваюць. Пакуль, прынамсі, толькі адзін палітык дакладна заявіў пра свой намер балатавацца. Гэта Анатоль Лябедзька, старшыня АГП. Ягонае жаданне і сапраўды самаахвярнасць вядомыя, але наўрад ці ўдасца згуртаваць большую частку апазіцыі вакол гэтай фігуры.

Як мне здаецца, прынцыпы ўдзелу апазіцыі ў такіх выбарах вельмі простыя. І першасны, і найбольш важны і важкі прынцып — гэта сітуацыя з палітвязнямі. Пакуль яны ёсць, апазіцыя не мае ніякага маральнага права ўдзелу у такіх „вырабах". Іншая рэч, калі б градус незадаволенасці грамадства быў вельмі высокім — тады ўдзел станавіўся б проста абавязкам. Але ж грамадства ў стане абсалютнай летаргіі і балота. Які тады сэнс такой сумнеўнай кампаніі?! Іншы істотны момант — уключэнне прадстаўнікоў дэмакратычных партый у выбарчыя камісіі. У гэтыя камісіі зараз не тое, што іншадумец не патрапіць, — мураш не прапаўзе. А без магчымасці ўплываць на падлік галасоў удзел становіцца бессэнсоўным. А таму раз'яднанай, слабой арганізацыйна апазіцыі ў такой сітуацыі найлепш пакінуць уладу адну ў спектаклі па чужым сцэнарыі і назвай „прэзідэнцкія выбары". Фактычны байкот можа стацца больш эфектыўным інструментам, чым статыстычны ўдзел.

Украінская апазіцыя, не вытрымаўшы растучага таталітарызму, радыкальна ўзялася за вілы, беларуская — лічыць за лепшае наступаць на старыя граблі. Ні то лоб такі цвёрды, ні то навучыліся атрымліваць задавальненне ад гэтага працэсу.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Дрэнны рахунак

На труізм выглядвае фраза, што мы старэем кожны дзень. А гэта сапраўды так. З кожнай хвілінай паміраем. Паступова, кропелька па кропельцы, непрыкметна на першы погляд, і ўсё больш заўважней: першым сівым воласам, баразной на ілбе, заўчаснай смерцю блізкіх. Мы не бачым, аднак, праміная лінейна, у яго бесперапыннасці хвілін, дзён і гадоў. Яно мае скокавую прыроду. Яшчэ пазаўчора я здаваў экзамен на атэстат сталасці, дзяўчыне, якую кахаў, прызнаўся ў любові аж да труны, планаваў жыццё поўнае прыгод і поспехаў. Учора я прачнуўся з таўром чалавека, які перасек смугу ценю — мае скроні ацерушыла першая сівізна. Аб дзяўчыне з ліцэйскага часу я ўжо даўно забыўся. А сёння... сёння я баюся прачнуцца. Бо калі мне сніцца толькі дрэнны сон, у якім я даўно завяршыў 50 гадоў, я ж нарэшце, прачнуся. Але як хто — малады, што дзяўчыне з забытым імем абяцаў каханне аж да магілы?

Тое, што паўтараецца, і што з'яўляецца сутнасцю жыцця, наша памяць паглынае як школьная губка тэму з папярэдняга дня напісаную мелам на дошцы. Толькі ці мы запамяталі папярэдні ўрок? Ці зрабілі ўсе хатнія заданні? Ці прачынаючыся да новых пачынаў, мы як чыстая дошка Русо — tabula rasa? На жаль, кожны дзень жыцця, які запісваецца на ёй чарговымі тэмамі ўрокаў, спажывае нас. Мы забываем, як смакаваў нам абед, прыгатаваны Мамай, як і першую экспедыцыю з бацькам на рыбалку. Сустрэчы з сябрамі пачынаюць дакучаць нам. Усё менш і менш у нас радасці, становіцца ўсё менш і жыццёвай патэнцыі. Дні ідуць за днямі, усё больш падобныя адзін на другі. У рэшце рэшт, усё зліваецца ў сіне-бледную пахлёбку. У лепшым выпадку, застанецца ў памяці размешчанымі ў архіпелаг выспамі. Некаторыя выспы шчаслівыя, іншыя бясплодныя, пазбаўленыя жыцця. Тым не менш, падарожжа на архіпелаг мінулага часу патрабуе вялікіх намаганняў, разумовай і фізічнай мабілізацыі. Цяжкой за ўсё знайсці ў пыльных шпаргалках карту вырлання. Але яшчэ цяжэй сабраць сябе і дабрацца да гэтага экзатычнага месца. І нават калі без карты, як Калумб, Магелан — зноў у невядомае. Але ці прагнілая ладдзя, якой стаў наш арганізм, у стане пераплыць такое доўгае падарожжа?

Фаўстаўскага комплексу, які штурхае нас на старасць у клапотныя справы, не пазбавімся адчароўваючы праміннанне. Што паможа шмараванне маршчыністага твару яшчэ адным пластом памады, румяны? Альбо экстрэмальнае рэзанне ланцэтам, упусканне ў сябе кілаграмаў сілікону? Што добрага ў «пазычцы» прыклеенай лакам на лысеючы чэрап? Як гэта ні сумна, мы смяротныя. Але ці значыць гэта, што смяротнасць павінна быць брыдкай? Ці азначае гэта, што толькі маладасць прыгожая? Так, гэта так, але яна таксама змагаецца са сваім часам, з вуграмі, бурай гармонаў, экстрэмальных эмоцый, пошукамі ўласнай ідэнтычнасці. Банальна сказаць, што маладасць працягваецца момант. Таму што гэта тое, што здаецца не быць банальным, драматычнае. Гэта нешта як жыццё матылька. Яно працягваецца адзін дзень. Не больш. На жаль, нараджэнне ініцыюе нашу павольную агонію. Жыццё з'яўляецца смяртэльнай цыкутай. Мы паміраем кожны дзень. Справа ў тым, каб гэта было зроблена з годнасцю, з сэнсам. Давайце не будзем забываць, што было для нас прыгожым. Часам сонныя мроі здаюцца больш рэальнымі, чым рэальнасць. Сон, аднак, па сваёй сутнасці нерэфлектыўны. Рэальнасць, нават гідкая, гэта не сон, пасля якога пратрэш вочы і ляціш далей наперад. Рэальнасць прымушае нас задумацца. Загадвае прыпыніцца. Нават на адну хвіліну.

Я не шкадую жыцця. Калі я знаходжуся ў гэтым месцы, у якім я ёсць у гэты час, гэта азначае, што я вычарпаў свае патэнцыйныя магчымасці і больш выціснуць з сябе не дам рады. Мабыць, я мог бы быць універсітэцкім выкладчыкам і напісаць пяць кніг больш... Мабыць, я мог бы атрымаць Нобелеўскую прэмію. Але я не атрымаў яе, з чымсьці не даў рады, ад чагосьці адмовіўся ці перад чымсьці здаўся. Гэта няпраўда, што я мог бы больш. Не мог. Я зрабіў усё, што мог сабе дазволіць. Хоць гэта праўда, што я мог бы зрабіць для сябе многае, многае іншае. Я ўсё яшчэ мог прадаць сваю душу д'яблу, як герой Фаўста Гётэ — для крышынкі вернутай маладосці. Толькі што яна доўжыцца не больш, чым адзін дзень. Адзін дзень, калі параўнаць яе з вечнасцю — дрэнны рахунак.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Свята свабоды

У радаснай атмасферы ва ўсёй краіне, у тым ліку і ў Беластоку, адзначылі 25-годдзе першых часткова свабодных выбараў у Сейм і Сенат. Здаецца, ніколі не было так пампезна і ўзвышана. Нават гэты дзень назвалі Святам свабоды. Раней, нават у сетцы магазінаў «Бядронка», раздавалі пры гэтай нагодзе кліентам кніжачкі з каляровымі здымкамі дасягненняў Трэцяй РП ды прадмовай прэзідэнта Браніслава Камароўскага, які заахвочваў «будаваць сумеснымі намаганнямі праграму ўрачыстасці». У падляшскай сталіцы, у рамках сумеснага будаўніцтва, далучылі, у прыватнасці, урачыстае ўручэнне падляшскім ваяводам статуэтак для каля сямідзесяці ўдзельнікаў чэрвеньскіх падзей 1989 года, дзве фатаграфічныя выставы, канцэрт, торт у шэсцьдзесят кілаграмаў, які парэзала разам з прэзідэнтам Беластока і падляшскім маршалкам абраная шляхам кастынгу, праведзенага беластоцкай мэрыяй, таго ж узросту што свабодныя выбары, даўганогая, прыгожая бландзінка Жанэта Зінчук, фармацэўтка па прафесіі. Усхваляваная сказала журналістам:

— Сёння часам бывае цяжка, некаторыя людзі, каб рэалізаваць сябе, вымушаны з'ехаць за мяжу. Я засталася тут. Ад часу, калі я пайшла вучыцца ў ліцэй, жыву ў Беластоку. Мая бабуля часта кажа, што пры «камуне» было лепш, але зараз у нас ёсць больш магчымасцей. Сёння я магу ўсё.

Гледзячы на панну Жанэту прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі кінуў у натоўп, які ў асноўным складалі сцягнутыя на цырымонію вучні:

— Удалася нам гэтая свабода!

Калі я пачуў прозвішча панны Жанэты, пацікавіўся яе каранямі, таму, што яно прагучала па-свойску:

— Я родам з Чаромхі. Я не беларуска, а полька. Праваслаўная. Мая мама і ўся сям'я з яе боку і боку майго бацькі там жывуць. Мая мама працуе ў прадуктовай краме, тата цяпер на пенсіі. Чаромха файная на працягу некалькіх дзён. Я не ведаю, ці я вярнулася б туды жыць пастаянна, хутчэй не. Тут, у Беластоку, ёсць больш магчымасцей і больш кожны можа сабе дазволіць. Я люблю Беласток, і прыгожа ён развіваецца. І мяне гэта задавальняе.

Я слухаў панну Жанэту і падумаў: знак часу. Магчыма, так, як свайго роду знакам часу з'яўляецца тое, што ні прэзідэнт, ні маршалак у сваіх выступленнях не згадалі пра ўдзел беларусаў у выбарах 25 гадоў таму. Да напаміну (таму што тут не трэба адмыслова тлумачыць, чытачы «Нівы» ведаюць): у сярэдзіне красавіка 1989 года беларускія асяроддзі вырашылі заснаваць свой Беларускі выбарчы камітэт і самастойна прыняць удзел у выбарах у Сейм і Сенат 4 чэрвеня 1989 г. Кандыдатам БВК у Сенат тады быў Сакрат Яновіч, у Сейм — Яўген Міранович. Пры нагодзе сёлетняга Свята свабоды праф. Яўген Мірановіч успамінаў у «Кур'еры паранным» (вельмі цікавае інтэрв'ю):

— Не думалі мы пра перамогу на выбарах. Большасць з нас была рэалістамі. Мы хацелі з'явіцца ў польскім палітычным жыцці і выйсці з ценю.

Вынік выбараў, хоць імпазантны, не даў беларусам месца ані ў Сейме, ані ў Сенаце. Сакрат Яновіч тады паведаміў у прэсе: «Мы пайшлі на выбары без найўнай веры ў перамогу. Мы ішлі, каб заісnаваць (...). Вынік быў здавальняючы і неспадзяваны. Больш за тое, нарадзілася ідэя, што проста 4 чэрвеня 1989 г. нарадзіўся беларускі палітычны рух».

Шкада, што аб гэтым вельмі важным матыве, звязаным з 4 чэрвеня 1989 г., пры нагодзе Свята свабоды ў Беластоку мясцовыя ўлады не хочуць памятаць, што надалей — мне здаецца — улады падляшскай сталіцы бачаць месцазнаходжанне беларускіх суграмадзян Трэцяй РП у ценю, так як гэта будзе і ў выпадку аб'яўленых прэзідэнтам Трускаляскім дзень пасля святкавання Дня свабоды сёлетніх Дзён Беластока, дзе для ягонай беларускай культуры няма месца.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# ПАЭТКА з міхнаўскіх палеткаў

**Сяло Міхнаўка**, — пісаў Эдуард Вайсковіч у „Ніве” у 1976 годзе, — што ў Нараўчанскай гміне, граніцыць з Лешукамі, а ад поўначы прылягае да ракі Нарвы. Яшчэ пры старой Польшчы сяло было разбіта на калоніі і кожны пабудаваўся на сваёй сялібе. Гаспадарскія сялібы тут абгароджаны, з садамі. Сярэднія гаспадаркі ад 5 да 10 га. Хоць зямля IV і V класаў, людзі дабіліся тут добрых ураджаяў (...).

Іду асенняй дарогай, па асфальце, засланым каляровымі лістамі, па Міхнаўцы. *Прыйшла восень, лісце жоўкнуць, асыпаюцца із дрэў. Замірае ўся прырода, замаўкае птушак спеў.* Злезшы з вячэрняга, адзінага аўтобуса, што ехаў з Беластока ў бок Нараўкі, па дарозе распытваю, як дайсці да хутара Радзіванюкоў. Калі б я ведала, што туды добры кавалак назад, а яшчэ і дарожкай праз поле, папрасіла б шафёра, каб спыніўся перад вёскай. Я тут першы раз, хаця лічу Нараўчанскую гміну маёй роднай. А пра Міхнаўку ў апошні час пачула з-за дзейнасці ў гэтай вёсцы культурнага згуртавання „Сторчык” („Ятрышнік”). Згуртаванне мае тут юрыдычную сядзібу, а яго дзейнасць шырыцца не толькі ў ваколіцы... Мінаю праваруч сядзібу „Ятрышніка” — адноўленую самаўрадавую святліцу. І тут збіраюцца тутэйшыя паэты і іхнія слухачы, якіх нямала. А іду я да Веры Радзіванюк, адной са старэйшых (1933 г. нар.) актыўных паэтак. Іду па асфальце, які неяк натуральна, прыродна тут выглядае пасярод буяючай на абочыне прыроды, у горкім паху вянучых лістоў і грэючыхся ў апошнім асеннім сонцы лугоў... *Восень наступіла, апусцела поле. Птушкі паляцелі ў далёкі вырай. Толькі над багном жураўлі курлычуць, збіраюцца разам развітацца з летам. Дрэвы пажаўцелі, стаяць з вялым лісцем, сыплецца на зямлю дыван залацісты. Вецер хмары гоніць, перагнаць не можа, зрэдку выглядае сонейка з-за хмары....* А дарога плыве пад нагамі... *Была дарога жвіравая, машыны ездзілі па ёй. Калі машына праязджала, пыл ляцеў трубой за ёй. Цяпер дарогу збудавалі і чорны асфальт залілі. Машыны гоняць як дурныя. Чаму так хутка і куды?*

Далей, за ліставымі гайкамі — цёмна-зялёны лес ператыканы жоўтымі плямамі бяроз. *Стаяць хвоі ў задуме і шумяць пад ветрам. Што ім шэпча вецер, што прынёс здалёку? А за той палянай гай расце зялёны, а ў гэтым гаю пташачкі спяваюць. А ўвойдзеш у гай, пахне ўсё навокал. Гэта наш любімы край, родная старонка...*

Іду і чуюцца мне словы вершаў старажылкі, якая ўсё сваё жыццё ператрывала на гэтых загонах, пад хмарамі, што пралятаюць высока над галавой, калі адарвеш вочы ад раллі і турбот. *Калі дзень пахмурны, неспакойна часам, думка думку гоніць нібы вецер хмары. Седзячы ў хаце, вельмі многа думак, пра ўсё пражытое, як даўней жылося. За пражыты годы, што перажыць прыйшлося, напісаць бы кніжку можа прыдалося б...*

Ведаю, што ў Веры Радзіванюк цэлыя сшыткі запісаныя мазолістай рукой, спрацаванай у гаспадарцы, пры дзецях. Бярэ ручку і піша, і чытае, хаця ў школу мала хадзіла. Занатоўвае і сваё жыццё ў мемуарным сшытку. Жыццё — не як поле прайсці па вёсцы.

*Вясковая гуліца даўно ўжо прыціхла. Няма ў вёсцы дзетак, ані крыкаў іхніх. Калісьці ў вёсцы было дзетак многа і забаў дзіцячых, галасоў ды крыкаў, не чуваць у вёсцы галасоў дзявочых. Няма калісьніх вячорак, ані песень звонкіх. Вёска пастарэла, усе дарослы сталі, пакінулі вёску, у горад паўцякалі. Засталісь старыя ў вясковых хатах, платы паваліліcь. Жывуць небагата...*

Іду да паэткі, чуючы той дух, што і яна ўдыхвае пасярод палёў і лугоў, пад ласкавым сонцам. Бачу: *разаслала бабіна лета павуцінку тонку: у блеску сонца выглядае, нібы ніткі шолку. На кустоўі, на травах, дзе ні кінеш вокам, ляжыць тонка павуцінка на палях шырокіх. А хто ж праў гэтыя ніткі, хто снаваў па полі? Трэба добра прыглядзецца на цудоўны ўзоры...*



Удалечыні, пасярод палёў, відаць падворак, збудаванні. Дом схаваны ў засені дрэў, тое светла-шэрае, што відаць ад дарогі — свіран. На падворку ходзіць непрывязаная белая козка. Паводзіць сябе як ахоўнік гаспадаркі — маю шчасце, што ўспрымае мяне як сваю. Гэтае стварэнне тут вельмі істотнае — жыць не можа без сваёй гаспадыні. Калі цётка Вера захварэла і трапіла ў бальніцу — і козачка перажывала, тужыла, не ела, амаль не кончыўшы свайго жыцця ў чаканні вяртання гаспадыні. Хаця меў ёю хто займацца — і сын з нявесткаю, і гаспадар. І козка, пільна ўзіраючыся, вядзе мяне пад ганак, дзе паяўляецца Вера Радзіванюк у хустачцы, з далонямі цёмнымі ад чышчаных грыбоў. Урадзіла гэтая восень грыбамі! У кухні Радзіванюкоў стаяць іх поўныя каструлі — гэта на марынаванне. А гэтыя горбы чысценькіх баравікоў — на сушку. Ля гаспадаркі завіхаецца Верына нявестка Вольга, муж Генік прысеў на тапчане... А пра паэзію пагаманіць пойдзем на „вялікую хату”, усю ў іконах і вышываных падушках... І раптам — зацвіўшыя заранёў зігакактусы шлюмбергеры — „груднікі” (звычайна гэта не іх пара квітнення) — асыпаныя белым і чырвоным квеццем.

Пачынаем пра суседа, якога творчасць таксама падтрымліваецца „Ятрышнікам” — ляшуцкага Тадзіка Кунцэвіча. І ён таксама дэбютаваў у агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы „Дэбют”. А Вера Радзіванюк прышле свае творы таксама на „Дэбют” — адна з найстарэйшых дэбютантак, чые вершы неўзабаве апынуцца на друкаваных старонках „Нівы”, арганізатара конкурсу. І па дарозе на школьным нараўчанскім аўтобусе на завяршэнне конкурсу (паедзе на ім у Беласток вялізная група нараўчанскіх творцаў — ад вучняў пачатковай школы да пажылых літаратараў) прачытае свой свежы верш. Пра лён. Але мы яшчэ пры асеннім грыбным багатым зборы. І пры паэтычным. На стале ляжаць пукатыя сшыткі, запісаныя вялікімі літарамі самавука. Вера піша здаўна, занатоўвае свае роздумы і станы духа.

— Ці я ведаю, неяк так узялося... таксама не было многа часу, бо гаспадарка... Але калі ўжо атрымалі сялянскую рэнту, кароў не трымалі, знайшлася тая крышына часу. Оля, калі ласка, зажані козачку ў хлеў.

Родам Вера з Лазовага, недалёка адсюль.

— Гэта ў другі бок чым да Боры Казлоўскага, мы больш да Лукі. Там калісь называлі нашу сялібу Ясевэ Пуолько. А чом так называлі, не памятаю. Відаць, па дзядах-прадзедах. Але ў тамашнім Лазовым нікога не засталося. Замуж сюды прыйшла, так і жыву — блізка шэсцьдзесят гадоў будзе. І пішу па-беларуску. А колькі я тае школы маю! Дзе за немца вучыліся! Так палічыць, то адну зіму дакладна хадзіла ў школу, у Ляўкове, бо нас у Ляўкова вывезлі з Лазовага. У Ляўкове за немца — ад Каляд да вясны, ужо апошні год як немец тут быў, і па вайне таксама дзесьці так — выкапалі картоплю, усё парабілі, то таксама да вясны хадзіла ў школу. Столькі мае навукі і было! Такі час быў, не іншы. Не было калі вучыцца. А тут мы жывем у вялікай цішыні. Самаходы ходзяць па дарозе, але да нас тут далекавата. Спакой, цішыня.

... Пісаць я пачала можа з пятнаццаць гадоў таму. А можа і менш. І калісь мела замілаванне да гэтага, але часу не было. Пры гаспадарцы — дзе да таго! Але сталі менш рабіць... І адной вясной — найшло на мяне нейкае натхненне. Бо яно не заўсёды ёсць. Бывае, начну, але не дапішу. Вось я пачала верш пра жураўлёў. А найпершы быў мой верш „Бярозкі”: *Белыя бярозкі, я ж вас пасадзіла, кволыя, маленькія, усё на вас глядзела. І калі вясною вырастуць лісточкі, станавілісь большы вашыя ствалочкі. Так ляцелі годы, вясна, лета, восень. Колькі ж тых гадочкаў адтуль праняслося! Выраслі бярозкі, мкнецеся да неба. А я пастарэла, паміраці трэба...*

Часам сеў бы, падумаў, напісаў. Але ўсё работа ёсць. Няма так каб без работы. Але прыпомніцца: *Жыта ў полі даспявае, спелым коласам шуміць. Пагляджу на спела жыта, успаміны ажывуць... Калісь жыта зажыналі, у поле з серпамі ішлі. Дзве нядзелі працавалі, жніва цяжкімі былі. А як жыта дажыналі, тады весела было... Як пайшлі з поля дадому, тады вёдры пайшлі ў рух...* Так тады ўсё яно было. *Вось тады як заспявалі, як бы стому зняў рукой...* Вядома, як тут я запісваю, невучоная. І памылак ёсць шмат. Пішу па-беларуску, але столькі гадоў па той маёй „школе”... *Жыццё праляцела, нібы буйны вецер, падкацілась старасць, горшы час на свеце.* Нават не заўважыла, як тая старасць надышла. Але ўсё чуецца як маладому: *Не магу заснуці да позняе ночкі, чую як шчабеча салавей у садочку. Выйду раніцою, сяду каля хаты, чую на багне — журавы гарлаты...* Такое ўсё — жыццёвае.

Вершы першы раз Вера паказала дзве зімы таму. Здаецца, нявестка камусьці напамянула ў вёсцы, што чула яе вершы, а Эля Кунцэвіч і Марыёля Рэент запрасілі на дэбютанцкую сустрэчу ў ляўкоўскую святліцу. Як было ў большай кампаніі, перад большай публікай? Смяецца: старэйшы чалавек ужо нічога не баіцца! Якась там было. Большасць сваіх вершаў ведае на памяць... Бываюць і плённыя месяцы — у мінулагодні ліпень напісала Вера з дзесяць вершаў.

Вершы піша і Верын сын Алік (1958 г. нар.). Па-польску, моцна палітычныя, сатырычныя. Ці такія прачытаеш? Можна з-за шчырасці і „наразіцца” каму-небудзь. Усё ж такі нам пару з іх прачытае! А праз пару нараўчанскіх паэтычных сустрэч паявіцца разам з маці і іншымі народнымі творцамі ў святліцы ў Семяноўцы. Хоць заракаўся — перад Марыёляй і намовамі калег уступіў! Вестку пра свекрыны вершы абнародавала была ягоная жонка Оля, родам з Кляшчэль. Пазнаёміліся яны былі на вяселлі праз брата Мікалая, які жыве ў Кляшчэлях, а гэта яе кум. І так яны тут разам трынаццаты год. Працавала на пошце, насіла лісты людзям. У лістах — важныя словы. Таму не змагла прамаўчаць пра тое, што пачула ў хаце — тыя простыя хвалюючыя вершы спадарыні Веры. Жывуць усе тут разам, гаспадараць разам. Ужо з жывіны трымаюць толькі тую козку. Але нікому козка (якую спадарыня называе... „Кароўкай”) не даецца падаіцца. Прызнае толькі гаспадыньку!

— Калі мама была на аперацыі вачэй у Беластоку, „Кароўка” далася мне падаіцца толькі тады, калі Вера была пад наркозам, і не думала пра яе. А мне патрапіць і бадануць, хаця ўжо добра ведае за столькі гадоў! Паміж імі такая тэлепатычная сувязь!

У Веры Радзіванюк такая сувязь з усім, што жыве тут навокал — і людзьмі, і прыродай. І вершы ў яе натуральныя — Вера піша, як дыхае.



**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Падыход да „Нівы”

Раніцай у чацвер, 22 мая гэтага года, у спажывецкую краму ГС у Нараўцы, якая знаходзіцца побач тамашняга помніка, прывезлі пяць экземпляраў штотыднёвіка „Ніва” № 21 ад 25 мая і я іх купіў для сваіх аднасяльчан у Новым Ляўкове ды для жыхароў са Старога Ляўкова. Яшчэ пяць экземпляраў купіў на гайнаўскай галоўнай пошце.

У той самы дзень быў я ў Гайнаўцы і ў кіёску па вуліцы 3 Мая купіў два экземпляры роднага часопіса (былі ў ім яшчэ два).

„Ніву” № 21 з цікавымі артыкуламі купілі ў мяне, між іншым, Валянціна Самойлік, Галіна Бірыцкая і Аляксей Врублеўскі з Плянты, Ян Драўноўскі з Міклашэва, Лідзія Харкевіч з Лешукоў, Канстанцін Целушэцкі, Мікалай Скепка, Марыя Крышань, Валянціна Ігнацюк і Валянціна Рыгаровіч з Новага Ляўкова ды Юрый Равінскі са Старога Ляўкова. Я вельмі цаню тых ляўкоўцаў і плянтаўцаў, якія чытаюць „Ніву” пастаянна. Мая колішняя вучаніца са Старога Ляўкова сказала мне, што зараз, каб не беларускі штотыднёвік, яна развучылася б чытаць па-беларуску.

Нашы чытачы — людзі адкрытыя і неабыякавыя да беларускай мовы. Яны з пашанай ставяцца да ніўскага карэспандэнта з Новага Ляўкова. Часта ад яго артыкулаў пачынаюць агляд новага нумара „Нівы”.

29 мая прывёз я „Ніву” № 22 ад 1 чэрвеня гэтага года з Беластока ў Новае Ляўкова. У гэтым нумары роднага штотыднёвіка надрукаваны, між іншым, цікавы рэпартаж са здымкамі пра „Ткаллю Зіну” з Новага Ляўкова. Калі я зайшоў на панадворак Зіны Рубчэўскай, яе дома не было. „Ніву” купілі для маці яе дачка і зяць. Зрабілі ёй неспадзеўку. Яны памяталі, калі аўтарка рэрпартажу журналістка Міра Лукша была ў іх маці. На другі дзень, 30 мая, я сустрэў спадарыню Зіну на вуліцы ля свайго дома. Яна ехала на ровары. Убачыла мяне і затрымалася. Хваліла аўтарку, што напісала добры рэпартаж пра яе жыццё-быццё. Ён ёй вельмі спадабаўся.

У суботу, 31 мая, „Ніву” № 22 купілі Яўгенія і Яўген Смольскія з Новага Ляўкова (зацікавіў іх перш-наперш рэпартаж пра Зіну Рубчэўскую, блізкую суседку з Новага Ляўкова) ды Галіна і Юрый Казлоўскія з Новага Ляўкова (яны пастаянна чытаюць „Ніву”), Зіна Пацэвіч з Нараўкі (яна кіраўнічка вядомага фальклорнага калектыву „Нараўчанкі”) ды Валянціна Самойлік (настаўніца, якая зараз на пенсіі) і Галіна Бірыцкая з Плянты. Усе гэтыя экземпляры я купіў у той пагодлівы дзень у спажывецкай краме ГС ля помніка ў Нараўцы. Ездзіў я па іх на ровары з Ляўкова. „Ніву” трэба купляць і чытаць. Беларускі штотыднёвік найбольш піша пра цікавых людзей і важныя падзеі на Бельшчыне, Гайнаўшчыне і Сакольшчыне ды ў Беластоку і ў Беластоцкім павеце.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**




## Белавежскія гульні ў тэатр



Год 2014 аб'яўлены годам Уільяма Шэкспіра ў сувязі з 450 гадавінай з дня нараджэння англійскага драматурга. Дзякуючы сваім гімназістам Белавежа магла таксама святкаваць з гэтай нагоды.

У лістападзе мінулага года вучні трэцяга класа Белавежскай гімназіі прымалі ўдзел у Падляшскім форуме тэатраў дзяцей і школьнай моладзі „Беласток-2013”, дзе прадставілі сваю лінейку з нагоды Свята незалежнасці 11 лістапада. Школьнікаў падрыхтавала настаўніца Іаанна Яганаў. Вучні так захоцілася гульнёй у тэатр, што пажадалі падрыхтавацца да тэатральнага фестывалю „**Szekspirfest**”. Настаўніца матэматыкі і фізікі Іаанна Яганаў вырашыла, што паставіць з вучнямі п'есу „Рамэа і Джульета”. У красавіку белавежцы прымалі ўдзел у конкурсе, а 15 траўня шэкспіраўскую рамантычную аповесць запрэзентавалі жыхарам Белавежы ў кіназале „Зубр”. У час Ночы музеяў 16 траўня моладзь выступіла яшчэ ў Гайнаўскім аквапарку.

Мне асабіста захапіла роля Джульеты, якую выконвала Магда Гвай. Яна вельмі ўражлівая ды эмацыйна прадставіла сваю гераіню. Дам'ян Руско таксама моцна стараўся пераканаўча зайграць ролю Рамэа. Цудоўныя былі касцюмы маладых акцёраў, якія падрыхтавала белавежская лекарка Гражына Ленда.

Белавежскія ўдалыя тэатральныя спробы абудзілі або адкрылі таленты не толькі ў школьнікаў. Гэта вельмі важнае. Шкада, што частка юных акцёраў нядоўга закончыць адукацыю ў белавежскай школе. На шчасце тэатрам заразіліся маладзейшыя вучні ды гульні ў тэатр будуць, здаецца, працягвацца. На заканчэнне школьнага года белавежскія шасцікласнікі збіраюцца паказаць п'есу на падставе рамана „Гэты незнаёмы” Ірэны Юргелевічовай. Застаецца жадаць поспехаў.

**Тэкст і фота Эвы ВАШЧЫНСКАЙ**

## У Кузаве на Сёмуху...

8 чэрвеня — Сёмуха, інакш кажучы Тройца. Стаяла цудоўнае сонечнае надвор'е. За акном — пустая вуліца. Жывой душы. У хаце цішыня. Беластоцкія сямейнікі раней адправіліся дамоў, бо ў абедні час немагчымым было б падарожнічаць на аўтамабілі ў трыццаціградусную спёку. Застаюся затым у адзіноце і... успамінаю мінулыя будні, дзяцінства, юнацкія гады...

На Тройцу, памятаю з дзяцінства, быў я пастушком у хрышчонай маці Кацькі Аўтанасавай, як клікалі яе аднавяскоўцы. Гэта былі гаспадары над гаспадарамі. Мелі адну дачку, Нінку. Ганарыліся адзіночкай. Выдалі яе замуж за прыстойнага кавалера са свайй вёскі. Спадзяваліся ўнукаў, але не дачакаліся. Маладажоны не маглі мець дзетак. Затым мяне, свайго пастушка, лічылі быццам сваім дзіцём. І я з году ў год выконваў сваю павіннасць з належным гонарам. Пасвіў кароў, авечак (па чарзе пасвілі тады ў вёсцы). Выводзіў кабылку на пашу кожную нядзелю ды ў свята. За гадавую паслугу хрышчоныя купілі мне сціплы падарунак, штосьці з вопраткі. У торбачку на поле давалі кусочак сала з аржаным хлебам. У святочныя дні замест сала клалі свойскага вырабу каўбаску або кавалак кумпяка. Памятаю, што на пашы ў дзень Святой Тройцы рабілі мы вяночкі з галінак бярозы і польных кветак. Найчасцей з буйнага фіялетавага колеру арэшку. Закладалі іх кароўкам на рогі. Не кожная жывёла дапускала, каб пакласці ёй на рогі вянок. Традыцыйна гаспадар абдароўваў за гэтую павіннасць пастушка ласункам. Жывёлу выганялі ў летні час раніцай і вярталіся з пашы ў абедні час. Затым выганялі каля другой пасля абеду і пасвілі да заходу сонца.

Ад Вялікадня да Тройцы вечары лічыліся святочнымі. Жанчыны збіраліся на вуліцы, сядалі на лавачках і спявалі агулькі ды вяснянкі. Пад Тройцу панадворкі ўпрыгожвалі маявінай, маладымі бярозкамі. Сцежкі пасыпалі жоўтым пяском. У страху затыкалі аер. Зараз гэтая традыцыя адышла ў забыццё. Старое пакаленне забрала яе з сабою ў вечны спачын.

Праехаўся я на ровары па Кузаве ды заглянуў у Рэпчычы. Нідзе не ўгледзеў маявіны на панадворках. Адно на панадворку кузаўскага кавалера Юзіка Саўчука і побач царквы прыкмеціў зялёную бярэзіну. Сумнае, але праўдзівае...

**Уладзімір СІДАРУК**



## Месяц польскай песні

Ужо гадамі I праграма Польскага радыё ўвесь месяц май пускае толькі польскія песні. Вельмі прыгожая гэтая ініцыятыва, якая дазваляе хоць трохі адпачыць ад англамоўных зорак ці музычнай балбатні, за якую танцьемы адводзяцца за мяжу. Але з канцом мая кашмар зноў вяртаецца і зноў рэшту года буду спавіты туманам англійшчыны. І ў гэтым месяцы мімавольна прыгадваюцца старыя, і слушна мінулыя, гады, калі на Польскім радыё можна было паслухаць не толькі айчыннай песеннай творчасці, але таксама рускіх, беларускіх, нямецкіх, чэшскіх, італьянскіх, грэчаскіх, французскіх ці ўкраінскіх песень, Было і цікава, і міла. Каму гэта ўсё перашкаджала?

І яшчэ адно: звярніце ўвагу на тое, што нам у „польскім” маі прапануюць. Апрача нешматлікіх сучасных твораў, якія зрэшты рэдка прыносяць маім вушам асалоду, на жаль, царавалі неўміручыя шлягеры1970-1990 гадоў. Ад некаторых мелодый на ваніты цягне — так яны мне абрыдлі на працягу дзесяцігоддзяў. А тое, што сапраўды люблю з тых гадоў, трымаю ў сябе дома на аўдыякасетах і дысках.

Выснова відавочная: цяперашняя музычная вытворчасць настолькі мізэрная, што калі б не запыленыя, архіўныя рэсурсы, то не было б чаго пускаць у эфір. Чаму б тады не пакарыстацца яшчэ старэйшымі запісамі шлягераў 1950-х гадоў, ці нават неўміручымі даваеннымі песнямі? Калі можам слухаць аркестр Глена Мілера, то і перажылі б песні ў выкананні Аляксандра Жабчынскага, Зулі Пагажэльскай ці Мечыслава Фога. А прыемнасць ад гэтага пэўна была б большай.

Ну, хіба што жыхары нашай краіны паўсюдна ўжо карыстаюцца англійскай мовай, а карані іх культуры сягаюць Афрыкі. Але пакуль, прынамсі ў маёй вёсцы, такой з'явы не прыкмячаю.

**Марк ЦЫБАРТ**

Блёк другі, кватэра 14. Пад самым пляскатым дахам тыповага блёка. Кажа пра гэты дом Марыя Каральчук — „камуністычны”. Пасялілі яе сюды ў той час, калі загналі ў блёкі жыхароў вёсак залітых Семяноўскім вадасховішчам. У цёплы дзень жанчынкі сядаюць на лавачцы. Асабліва прыемна, як пры канцы бандарскага „аседля” пачынаецца беларускі фэст. Тады збіраюцца тут выхадцы тутэйшай ваколіцы і іхнія сваякі. І да бабулі Марыі з'яўляецца радня, нават з далёкага замежжа. Ёсць і праўнукі з Нью-Йорка.


Марыя Каральчук (злева) з сяброўкамі

# МАРЫЯ КАРАЛЬЧУК: на апошнім паверсе

— Весялей! Як папрыязджае народ — весялей. І песні вясёлыя, бадзёрыя. Яшчэ чую досыць добра! — смяецца старажылка. — І ўвесь час пытаюцца ў мяне пра былое, бо я тут, здаецца, найстарэйшая. Злезу з чацвёртага паверха, пасяджу на лаўцы, пасля зноў караскаюся на свой апошні паверх. І гэта ўся мая хадня!

...То ж вазьмеце — колькі лет пражыла! З 1921 я року! Дзякуй Богу, што яшчэ памяць яшчэ трохі трымаецца. Добра выглядаю, бо апеку маю добрую — з дачкой жыву. Калі б адна была — не вытрывала б. Дачка пільнавала ў дачкі ўнука. Кажу: едзь да яе, жыві там, я адна застануся дома. Але як хапіла мяне язва на пухіры! Дачка прыехала ў суботу, а я ледзь дыхаю. І кроў ляціць з мяне. Пазваніла дачка па скорую дапамогу. У шпіталі мне зараз на ранак зрабілі аперацыю: тое направілі, падлячылі, іншае папсавалі... От такое жыццё.

... Як нас высялялі? Пачалі той „злеў” рабіць — возера. І нас — сюды. „Камуна” ставіла гэты блёкі. Мы не спадзяваліся, што мы тут будзем жыць. Але наша ўсё прайшло. Ніц няма. Ані гаспадаркі — нічога. І гэтак усё да гэтых блёкаў усадзілі... То яшчэ не давалі гэтага блёка. Мы былі ў сына ў Васількаве — там наш сын жыве. Мы яму памагалі будаваць кватэру, дык нам не давалі кватэры. Пасядзелі мы ў сына. Прыязджае да яго з ВЗІРу, пытаецца ў сына: «Дзе ойцец, дзе матка?» Кажа ім ён: «Дзе?!. Не даеце кавтэры, то ў мяне тыдзень, то ў дачкі тыдзень, то ў другога сына тыдзень...» І так, кажа, жывуць. Дык сказалі, што калі бацькі вернуцца, каб ехалі да іх, яны дадуць кватэру — бо ўжо яна ёсць. Мы прыязджаем сюды, а тут толькі гэтая адна кватэра, усе іншыя занятыя. Дык мы гэту кватэру і ўзялі. Купілі на ўласнасць. І так ад тае пары ў гэтым „мяшканні” і жывем. А муж мой, Каральчук Аляксандар, ужо памёр, 18 гадоў таму... А ў Луцэ ў нас добрая хата была, і мураваная з цэглаў стадола, і другая стадола драўляная, і гаспадарка ўся была... Бач, а нумар хаты сваёй я забылася... І ўсё пайшло... Хацелі мы тое сваё адкупіць, адкупіць сваю стадолу — але яе хтосьці ўжо іншы адкупіў. І так ужо асталося. Ніц нашага. Не паспелі мы! З роду я Віткоўская. Дзед быў „польскі”, бабця была „польская”, а тату ўжо хрысцілі ў царкве. Дзедка мой называўся Казьмеж, а бабця Тэрэса, а тата называўся Лукаш. Наша хата ў Луцэ стаяла каля Жукоўскае Манькі, чалавек яе Бэнэк называўся. Колькі гаспадароў у Луцэ было! Хаты былі і на адзін бок і на другі вуліцы, і на агародах, на адным падворку па тры хаці! І хлявы былі, і новая хата пастаўлена была, харошая. Ну і што, ну? Усё прайшло. І цяперака, каб у сваёй хаце, то сядзець бы там нам спакойна... Добра было. Муж таксама рабіў у Беластоку, і сын там рабіў, ездзілі ўсё на працу на будовы, там працавалі, а я ўсё на гаспадарцы рабіла. Прыедуць яны, мне памагаюць трохі, а тады зноў раніцай едуць. Самаход давозіў то сюды, то туды. І от так жылі. Чацвёра дзяцей у нас было, два сыны, дзве дачкі — адна, з якой разам тут жыву, другая аж у Валчу, там замужам. А сын адзін жыве ў Васількаве, другі ў Германоўцы за Беластокам. Зямлі ў нас не было так і многа, так з дванаццаць гектараў. Мелі мы садок, вельмі хораша радзіў. Пад акном яблынькі пасаджаны... Рака блізка, паветра добрае. А вёска Лука была вялізная! Файна было, усё было! Рэчка Нарва каля самай вёскі.... Весяло было. А яшчэ і ў той час чалавек малады быў. А далі тэрмін. І мусілі да яго выселіцца. Забралі мы з хаты ўсё, што ўсярэдзіне было. А ўся рэшта — засталася. А з таго, што наша старое было — гэта канапа яшчэ лучанская, са старое хаты. Другую ўжо купіла. Тут маем адзін пакой, другі, кухню, лазеньку, балкон. Яшчэ як мы дзве, нам досыць, але як прыедзе радня — месца мала. На падлозе кладзем матрацы, і на іх кладзем спаць. Шасцёх унукаў было, а ўнучак дзве. Праўнукаў саміх трынаццацёра маю!

Вось нявестка мая, з Германоўкі. Часта сюды прыязджаюць, а сваякі ўсе па свеце раз'ехаліся. Цяпер мы толькі тут дзве з дачкой. А гэтая поўная хата — мае ўнукі і праўнукі. На свята прыехалі. Ведаеце, усе да бабці едуць, я — прабабця, а мая дачка ўжо бабця.

Шкода Лукі. Так было добра ў сваёй Луцэ. Ой! А тут колькі трэба плаціць! Божа! А колькі тае рэнты маю. З гаспадаркі толькі семсот злотых. А заплаціць за кватэру трэба, за святло, за ваду... А жыць жа трэба, і есці, і на лякарствы... Дачка за апошні месяц заплаціла за ўсё тысячу злотых. Такое жыццё, не дай Божа... Камуністычныя вокны і дзверы нічога нявартыя былі, мусілі ўставіць новыя. І дах мусілі пакрыць, бо жывем жа ж на апошнім паверсе. Усё было пароблена чортведама як! Купілі мы новыя вокны ў Беластоку, зрабілі крыты балкон. Цяплей цяпер, а то дзьмула ад возера.

За страчанае грошай крыху нам далі. Ці атрымала я грошы за „вспульноту!” Не. Я была ў спіску тых, хто грошы дастаў? Хіба дастала сваю долю іншая Віткоўская, Вера, брата майго таты нявестка. Жыве яна ў Беластоку.

Як Аляксандар мой памёр, хацеў мой зяць забраць мяне ў Валч. Гэта дзесь аж пад нямецкай мяжой. Але я не згадзілася. Не, не, не — я так далёка не паеду! Бо калі там памру, хачу, каб мяне пахавалі тут. Тут дзе ўся мая радня. У Ляўкове на могільніку. Бо Лука належала да Ляўкоўскай парафіі. А Бандары — належаць Юшкаваму Груду. А там — мая старонка.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ


Нюру Лукшу перасялілі з Буд

## Каго вінаваціць?..

Аб тым, што грамадства неакуратна ставіцца да смеццевага закона, усім добра вядома. На вясковым сходзе ў Кузаве, напрыклад, жыхары скардзіліся войту, што іхняе наваколле (абочыны дарог і лес) забруджваюць адходамі прыезджыя турысты. Едучы над вадаём, забіраюць у аўтамабіль рознага віду смецце, затым выкідаюць адходы ў прыдарожныя равы або ў лес. Прыкладаў на гэта хоць адбаўляй. Хопіць праехаць кіламетравы адрэзак асфальтоўкі з Кузавы



ў Рэпчычы. Зараз жа за царквою, пабапал дарогі валяюцца пластмасавыя бутэлькі па напітках і піве. А недаязджаючы да чыгуначнага пераезда, што на гайнаўскім пуці, пры павароце гравійкі на кузаўскі могільнік, хтосьці вываліў у малады сасняк гурбу смецця. Два вялікія фольгавыя мяшкі і шмат адпадаў урассыпную. Прыкмеціў я гэта едучы над вадаём 8 чэрвеня, на Сёмуху, адвячоркам. Сорамна глядзець. Гэткая візітная картачка кляймуе кузаўцаў, хоць яны, памойму, ні ў чым тут не вінаваты. І каго будзем вінаваціць?...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Конкурсы

Больш дванаццаці гадоў войт Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) супольна з членамі камісіі па сацыяльных і грамадскіх справах Гміннай рады арганізуе конкурс на „Найпрыгажэйшую сялянскую сядзібу”. Ён стаў папулярным. У ім могуць удзельнічаць усе ахвотныя жыхары гміны. Найчасцей удзельніцамі былі актыўныя вясковыя гаспадыні з дванаццаці вёсак з розных бакоў гміны. Заяўкі да ўдзелу ў г.зв. агародчыкавым конкурсе можна падаваць да 30 чэрвеня гэтага года солтысам ды ў Гмінную ўправу і ў Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы.

Конкурсная камісія (з 5-6 чалавек) ацэніць эстэтыку сялянскіх дамоў і сельскагаспадарчых будынкаў, панадворкаў і кветкавых агародчыкаў. Уручэнне дыпломаў і грашовых узнагарод традыцыйна ўжо адбудзецца на сёлетняй першай асенняй сесіі нараўчанскай Гміннай рады.

* * *

Праўленне Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі запрашае да конкурсу „Зберагчы ад забыцця (людзі, традыцыі, гістарычныя падзеі ва ўспамінах тутэйшых жыхароў)”. Можа гэта быць публіцыстычны артыкул, апавяданне, інтэрв'ю, рэпартаж, ілюстраваны рэпартаж, фотарэпартаж, хроніка, нідзе дагэтуль не публікаваныя легенды пра месцы і незвычайныя здарэнні.

Працы дасылаць да 30 ліпеня гэтага года ў Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы, вуліца Новая, 3 А. Там і звяртацца па дэталёвую інфармацыю. Перш-наперш да кіраўнічкі Гміннай публічнай бібліятэкі Анны Стульгіс. Бібліятэка працуе ад 10 да 18 гадзіны. Можна таксама тэлефанаваць на нумар 85 685 80 34.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Спатканне з Варшавай

Наш этнаграфічны гурток, які дзейнічае пры бібліятэцы ў Крынках, не так даўно пабываў у сталіцы. Забрала нас туды дырэктар бібліятэкі Люцына Юркевіч. Экскурсія ў Варшаву была формай узнагароды за нашу працу па зберажэнні роднай мовы і вывучэнні гісторыі рэгіёна.

Паездка была доўгачаканай. У ноч перад выездам вочы не заплюшчваліся ад хвалявання. З самой раніцы бацькі прывялі нас нявыспаных да аўтобуса. Пасля трохгадзіннага падарожжа ўбачылі мы вялікую сталіцу. Як мага хутчэй накіраваліся мы ў славуты Цэнтр навукі імя Мікалая Каперніка. Там асабіста паддаліся мы выпрабаванням законаў фізікі і хіміі.

Пасля крынская брыгада пусцілася па сталічных крамах. Вячэрняя прагулка па старым горадзе ўвяла нас у незвычайны настрой і забяспечыла добрым, моцным сном.

Другі дзень у сталіцы распачаўся з наведання Музея Варшаўскага паўстання. З хваляваннем выслухалі мы гісторыі пра нашых аднагодкаў — змагароў за свабоду.

З Варшавай цяжка было развітацца. Паездка атрымалася надта паспяховай.

Аня КРЫШТАПОВІЧ



Ну, паехалі – Оля Кішкель



Вікторыя Станкевіч і вялізная бурбалка ў Цэнтры навукі імя Каперніка




Абавязковы памятны здымак у кавярні «Starbucks»

# Мудрая дзяўчынка

*(кабардзінская казка)*

Было гэта даўно. У адным ауле жыў князь. Ён быў багаты і злосны. Не любіў ён аднаго дзеда са свайго аула. Паклікаў раз яго да сябе і кажа:

— Вазьмі стары гэты нож, і здымі скуру з каменя. Памятай, каб да заўтра паспеў.

Пайшоў стары са сваёй бядой дахаты. А ў яго была дачушка, мудрая і прыгожая. Яна спытала ў бацькі:

— Чаму ты, татка, засумаваў?

Расказаў ёй стары пра свой клопат.

— Кладзіся спаць, — кажа дачка, — раніцай нешта прыдумаем.

Бацька ўсю ноч не мог заснуць. Раніцай прыйшла да яго дачка і падала ў рукі востры нож.

— Ідзі татка да князя. Скажы яму, што ты гатовы выканаць яго загад. Ты ведаеш, што з жывога скуры не здымаюць. Няхай князь раней заб'е камень, тады ты і здымеш з яго скуру.

Пайшоў стары да князя, а там ужо аул сабраўся. Хочуць пабачыць, як стары загад будзе выконваць...

Пакланіўся бацька князю і кажа:

— О, мудры князь! Я гатовы выканаць твой загад. Аднак ты добра ведаеш, што з жывога скуры не здымаюць. Забі спачатку камень, тады я скуру з яго здыму.

Спадабаўся князю адказ. Ён усміхнуўся і кажа:

— А хто табе так параіў?

— Дачка, — адказаў стары.

Князь папрасіў прывесці дзяўчыну. І калі ўбачыў якая яна прыгожая і да таго разумная, адразу заказаўся і з ёю ажаніўся.



**КАБАРДЗІНЦЫ** пражываюць у сярэдняй часты Вялікага Каўказа. Гэты горскі народ цэніць свабоду, прыгожасць, гонар і ўмеласць вяваваць. Кабардзінцы жывуць у пасёлках — аулах. Іх сталіцай з'яўляецца горад Нальчык.

*Вераніка БУЙКА, Навасады, школа ў Міхалове*

## Дзень нараджэння

*Ёсць у годзе дзень такі,*
*Любяць яго ўсе дзеткі.*
*Днём нараджэння ён называецца,*
*Да гульні нас прызывае.*
*Многа падарункаў атрымліваем,*
*І смяемся да ўпаду.*
*Вось дзень нараджэння!*

*Іза БАРОЎСКАЯ, Нараўка*

## Божая кароўка

*Божая кароўка, божая кароўка*
*Усміхаецца да сонца.*
*Дзеці божую кароўку шануюць,*
*І часта ёй штосьці прапануюць:*
*„Божая кароўка, паляці да неба...”*
*Аб чым дзеці з кароўкай гавораць,*
*нам ведаць не трэба.*

*Ружа КАЛІШУК, Міхалова*

## Сяброўка

*Калі я маленькай была,*
*Адна думка мне па галаве хадзіла:*
*Каб сяброўку тады мець!*
*Цяпер я яе ведаю некалькі гадоў,*
*І дагэтуль сваркі не было!*



# Падзяка за ўвесь школьны год!

**— Чаму нам патрэбныя беларускія набажэнствы? Каб дзеці ведалі, што беларуская мова не толькі ў кніжках, — кажа бацька дашкольніка Алеся, — што яна ў царкве, што на ёй мы можам нармальна памаліцца...**

— Беларускі малебен вельмі прыгожа дапаўняе працэс навукі, — дадае тата Наталькі. — Ад гэтага нараджаецца пачуццё гонару.





— Мы кожны год прыязджаем на малебен, — адзначае мама Шымка. — Хочам падзякаваць за здароўе і вытрымку, за ўсе поспехі і паразы. І адначасова папрасіць здароўя на наступныя школьныя гады...

Беларускія малебны ў Беластоку — гэта ўжо традыцыя, заведзеная аб'яднаннем АБ-БА. Бацькі кожны год закупляюць падзячны малебен у канцы школьнага года. Таксама малебнам пачынаецца кожны школьны год. І яшчэ пабеларуску молімся ў Дзень волі — 25 Сакавіка. Сустрэчы ў царкве завяршаюцца кранальным акцэнтам: усе спяваюць „Магутны Божа", цудоўны беларускі рэлігійны гімн.

У гэты раз малебен арганізавалі 5 чэрвеня, у дзень Еўфрасінні Полацкай, нябеснай заступніцы Беларусі. Малебен, згодна традыцыі, адбыўся ў Свята-Юр'еўскай царкве.

Айцец Рыгор Місіюк у кароткай прамове сказаў:

— Нам трэба ганарыцца, што наш народ добры і прыстойны. У нас шматвяковыя асветніцкія традыцыі. Еўфрасіння Полацкая ўжо ў XII стагоддзі арганізавала прыманастырскія школкі для дзяўчат. Разам вучыліся пісьменнасці і любові да роднага краю.

Айцец Рыгор дадаў, што не заўсёды можна было гаварыць пра гісторыю Беларусі. Ён сам, як рэдактар духоўных радыёперадач, быў вымушаны перамагаць многія непаразуменні. Для людзей звонку веды пра Еўфрасінню Полацкую ўспрымаліся як выдумка. Дзе такое магло быць у Беларусі, — дакаралі яго недаверкі, — калі ў Польшчы адукацыйны працэс на роднай мове пачаўся некалькі стагоддзяў пазней...

5 чэрвеня г.г. наша Беласточчына дадаткова ўзбагацілася. У царкву ў падбельскім Аўгустове прывезлі з Мінска ікону і святыні прападобнай Еўфрасінні. Гэта добры момант, каб больш грунтоўна вывучыць навукі святой і належным чынам ацаніць яе працу ў карысць беларускай зямлі. Сабраныя ў Беластоку бацькі і дзеці асаблівa дзякавалі настаўнікам, якія разам з ведамі прывіваюць любоў да роднага.

**ЗОРКА**

**Фота ГАННЫ КАНДРАЦЮК**

## Увага, конкурс!!! (№ 24-14)

## Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 15 чэрвеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
Бліснула,
Зламалася,
Дзесьці ўміг схавалася.
Ні дагнаць,
Ні след пазнаць —
Толькі водгулле чуваць.
(М......)

**2.**
Лясной сцяжынкай,
Дзе густыя шаты,
Працаўнічок
Спяшаецца дахаты.
Яго амаль і не відаць,
Малога,
А цягне — болей
За сябе самога.
(М......)

**Адказ на загадкі № 21-14: гром, дзікае парасятка.**

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Наталля Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Марта Кардаш** з Міхалова, **Амэлька Малахоўская** з Шудзялава і **Нася Амільянчык** з Бабік. Віншуем!

# Польска-беларуская крыжаванка № 24

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 20:

Амстэрдам, лапа, там, нос, лодка, вясёлка, палоскі, ар, ківот, аса, усе, лак, Таджыкістан. Ася, кут, Ліса, мовавед, сяло, сотны, лёс, толк, Лі, аладкі, Ас, мамка, акт, Ас, дар, Траян.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Ганна Годзінская**, **Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Бэата Цілюлька** з Бабік, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку, **Саша Савіцкая**, **Каміля Станіслаўюк** з Шудзялава, **Мартына Геска**, **Юлія Грыц** з Міхалова, **Барташ Ламашкевіч**, **Рафал Новік** з Нараўкі. Віншуем!




## Вершы Віктара Шведа

### Няверны

Настаўніца сварыць Казімера:
— У замагільнае жыццё
не верыш,
Не знаеш божага закона,
Ты толькі ў сябе ўлюбёны.

Да таго ж ты ілгун на рэдкасць,
Браў дзень на паховіны дзедкі
А дзедка жывы і вясёлы
Стаіць сёння пад
нашай школай.

### Пазнаем век па зубах

На занятках з прыроды
Настаўнік пытае дзяцей:
— Ці вас не турбуе заўсёды
Па чым пазнаем век гусей?

Адказ тут быў Мікалая:
— Пазнаем век гусей па зубах.
— Ды гусі ж зубоў не маюць.
— Зубы ж ёсць у нашых ратах.

### Паявілася кніжка

Рэлігіі настаўніца
Запытала Сцёпу:
— Скажы, што сталася
Пасля патопу?

Усе здзівіліся
Адказам вучнёўскім:
— Кніжка паявілася
„Пан Валадыёўскі"

# Палкоўнік «ЛАНДАР» працягвае змаганне

**Летась звярнуліся да мяне арганізатары рэканструкцыі Мілавідскай бітвы 3 чэрвеня 1863 г., самай вялікай бітвы паўстання 1863-1864 гадоў, каб дапамагчы ім адшукаць здымак аднаго з камандзіраў паўстанцкіх атрадаў, палкоўніка Аляксандра Лянкевіча псеўданім «Ландар». Выканаць гэты заказ мне пакуль што не ўдалося, тым не менш пошукі адкрылі перада мною невядомыя мне дагэтуль сувязі паўстанцкай справы з сусветнай палітыкай.**

Палк. «Ландар» пасля Мілавідскай бітвы нейкі час дзейнічаў у Аўгустоўскай пушчы. Пасля паразы пад Стрэльцавізнай падаўся ў Францыю, а адтуль у Амерыку, на чарговую вайну. У Амерыцы ішла тады сэцэсійная вайна між Уніяй і Канфедэрацыяй, якая пачалася ў 1861 годзе. Лянкевіч хацеў змагацца на баку канфедэратаў супраць федэралаў.

Што падштурхнула паўстанцкага камандзіра на такі крок?

Выхадцы з Польшчы ваявалі тады як на баку Поўдня, так і Поўначы. У арміі Уніі адзначыўся палк. Уладзімір Кржыжаноўскі, які стварыў Польскі рэгімент і даслужыўся рангу генерала. На баку Канфедэрацыі Польскую брыгаду арганізаваў на свае грошы Каспер Тохман з дапамогай палк. Валеры Сулякоўскага і Уладзіслава Ваньковіча, ветэрана паўстання 1830-1831 гадоў. Ваньковіч выдаваў блізкага сваяка Тадэвуша Касцюшкі і відавочна паходзіў з Беларусі. У Брыгадзе, нягледзячы на яе назву, служылі толькі 23 палякі, што не задавальняла яе стваральнікаў. Сулякоўскі вырашыў прыцягнуць паўстанцаў і іншых польскіх эмігрантаў, каб стварыць Польскі легіён. Заплатай добраахвотнікам мела быць грамадзянства Канфедэраваных Штатаў Амерыкі і зямельны надзел. Пад канец жніўня 1864 года марскую блакаду пад Уільмінгтонам фарсіравала група палякаў, сярод якіх быў палк. Лянкевіч. Польскія вайскоўцы зрабілі прапанову набору польскіх эмігрантаў з Еўропы на службу ў арміі КША ў аднародных адзінках пад польскім камандаваннем. Няма ведама, ці хадайніцтва гэтых польскіх вайскоўцаў былі каардынаваныя з акцыяй Тохмана і Сулякоўскага, тым не менш праект набыў пэўны розгалас і быў ухвалены Палатай прадстаўнікоў Кангрэса Канфедэрацыі. Далейшы лёс праекта невядомы, таксама як і лёс Лянкевіча, але польскі корпус безумоўна не ўзнік.

Тым не менш, пытанне, што магло схіліць Лянкевіча, а раней Тохмана, Сулякоўскага і Ваньковіча стаць на баку Канфедэрацыі застаецца. І адказ на гэтае пытанне відаць не такі і цяжкі.

Амерыканскі Поўдзень змагаўся за права на аддзяленне, якога яму адмаўлялі ў Вашынгтоне. Такім чынам, знаходзіўся ў ідэнтычным становішчы як Польшча, якая змагалася за аддзяленне ад Расіі. Таму палк.Сулякоўскі не сумняваўся, што палякі маглі стаць на бок Поўначы, якая глуміла свабоду паўдзённых суседзяў з падтрымкай Расіі.



Сняткаванне гадавіны Мілавідскай бітвы



Палкоўнік Валеры Сулякоўскі

Дык пры чым тут Расія? Пасля выбуху вайны Канфедэрацыя спадзявалася на падтрымку Вялікабрытаніі і Францыі. Французскі імператар Напалеон III абяцаў прызнаць Канфедэрацыю, калі гэта зробіць Вялікабрытанія. Пакуль што інтэрвеніяваў у Мексіцы і пасадзіў на імператарскі трон гэтай краіны Максіміліяна І Аўстрыйскага. Урад Брытанскай імперыі падтрымаў гэтую авантуру, а таксама акупацыю Іспаніяй яе былой калоніі Санта-Дамінга, хаця гэта пярэчыла амерыканскай дактрыне Манро, згодна якой еўрапейскія дзяржавы не мелі права ўмешвацца ў справы заходняга паўшар'я. Брытанцы таксама ўсур'ёз разглядалі інтэрвенцыю на баку канфедэратаў. А на каго маглі разлічваць у такім выпадку Злучаныя Штаты Амерыкі? Перш за ўсё на Расійскую імперыю. Напалеон III разумеў, што інтэрвенцыя патрабуе згоды Расіі, але гэтая не мела намеру дазволіць на атаку на ЗША і рашуча стаяла на баку федэральнага ўрада. Калі прэзідэнт Абрагам Лінкальн выдаў эмансіпацыйную праклямацыю, у якой абвясціў вызваленне рабоў з днём 1 студзеня 1863 года, ЗША яшчэ больш наблізіліся да Расіі, дзе два гады раней цар Аляксандр II разняволіў сялян. Цяпер улады абедзвюх краін маглі выступаць як абаронцы свабоды чалавека. Дарэчы, лёс беларускіх сялян параўноўвалі з лёсам чорных нявольнікаў. Яшчэ ў 1842 годзе віленскі літаратар Рамуальд Падбярэскі грымеў апісваючы нядолю беларускіх сялян: «Народы, нацыі спрачаюцца пра свабоду мурынаў, а не ведаюць, што пасярод асвечанай Еўропы адбываецца варварства, беззаконне, продаж і гандаль людзьмі...». Таксама Аляксандр Герцэн пісаў са спачуваннем пра лёс «беларускага раба».

У такім становішчы на сусветнай палітычнай арэне выбухнула паўстанне 1863 года. Нягледзячы на сімпатыю сваіх грамадстваў, як Вялікабрытанія, так і Францыя (на якую так спадзявалiся выдаўцы «Мужыцкай праўды») не спяшаліся з інтэрвенцыяй. Брытанскі ўрад лічыў, што паўстанне можа прычыніцца да ўзнікнення супольнага расійска-амерыканскага фронту, што магло рэвалюцыянізаваць адносіны між сусветнымі дзяржавамі на шкоду Лондана. Тым не менш, пасля падпісання расійска-прускай канвенцыі Альвенслебена, Напалеон III спрабаваў згуртаваць спярша супрацьпрускую, а пасля супрацьрасійскую кааліцыю. Летам 1863 года магло нават здавацца, што прыйдзе да вайны Францыі, Вялікабрытанні і Аўстрыі супраць Расіі.

Плануючы вайну на еўрапейскім кантыненце, цяжэй было планаваць інтэрвенцыю на амерыканскім мацерыку. Тым не менш магчымасць вайны Злучанага Каралеўства са Злучанымі Штатамі таго ж лета выглядала зусім рэальнай. Калі крызіс ва ўзаемных адносінах дайшоў да зеніту, на зломе верасня і кастрычніка расійскі флот заплыў у амерыканскія парты: Балтыйскі ў Нью-Йорк, а Далёкаўсходні ў Сан-Франциска. Расіяне зрабілі гэтыя крокі, каб захаваць свой флот ад знішчэння брытанцамі ў выпадку вайны. Тым не менш іх прыбыццё выклікала эйфарыю на Поўначы. Расіян частавалі паўгода, пакуль паўстанне ў Польшчы не было задушана. Калі карабель «Аляксандр Неўскі» зайшоў у порт у Александрыі непадалёк ад Вашынгтона, на ягоную палубу прыбыў сам прэзідэнт Лінкальн і падняў тост за цара Аляксандра II. Калі на пачатку 1864 года адзін марак-паляк збег з расійскага карабля і ўступіў у рады войск Уніі, яго на пажаданне расійскага пасла незаконна выдалі расіянам, а тыя неадкладна яго павесілі на рэі карабля, на якім раней служыў.

Брытанцы канчаткова не рашыліся на вайну з амерыканцамі, але на зломе 1863 і 1864 гадоў у вачах польскага вайскоўца, такога як палк. Лянкевіч, мусіў рысавацца патэнцыяльны канфлікт, якога контур накрэсліў амерыканскі гісторык Уэбстэр Грыфін Тарплі: сусветная вайна паміж ЗША, Расіяй, Прусіяй і магчыма Італіяй з аднаго боку і Вялікабрытаніяй, Францыяй, КША, Іспаніяй і магчыма Партугаліяй ды Аўстрыяй з другога. Сапраўды, гэта была б Першая сусветная вайна, толькі на паўстагоддзя раней.

Чаго мог чакаць польскі патрыёт ад такой вайны? Выключна перамогі кааліцыі сканцэнтраванай вакол Вялікабрытаніі і Францыі, на баку якой безумоўна ваявала б Канфедэрацыя. Адносіны ўлад Уніі да польскай справы былі адназначна варожыя. Яе прадстаўлялі як сепаратызм падобны сепаратызму Поўдня, спалучаны з абаронай паншчыны, якую адмяніў расійскі цар ды са зненавідным амерыканскім пратэстантам каталіцтвам. Рымскі папа, дарэчы, падтрымаў як Канфедэрацыю, так паўстанне. Перамога кааліцыі, якой ядром было б ЗША, азначала б, што Польшча застанецца пад расійскай уладай.

Выбар «Ландара» можа таксама сведчыць аб ягонай іерархіі каштоўнасцей. Свабода Польшчы была для яго важнейшай за свабоду чорных рабоў. Цікава, што падумаў Каліноўскі, пачуўшы (бо чаму ж не) пра крок Лянкевіча? І на чый бок стаў бы, калі б Францыя апраўдала яго спадзяванні і рашылася разам з Вялікабрытаніяй на сусветную вайну ў абароне рабаўладальніцкай дзяржавы?

**Алег ЛАТЫШОНАК**





Фота Аляксея МАРОЗА

**Пяцьдзясят гадоў таму мае аднакласнікі бралі свой апошні ліцэйскі бар'ер — здавалі экзамен на атэстат сталасці. Пасля гэтага ўсе расцярушыліся па сваіх уласных жыццёвых лабірынтах, змагаючыся з разнароднымі чарговымі бар'ерамі. Спяшаючы, як тыя вугры ў Саргасавае мора, у напрамку Стыкса, міфічнай ракі забыцця, дзе Харон адно за адзін абол перапраўляе на другі бераг... Сёлета, у пяцідзесятую гадавіну завяршэння гайнаўскага белліцэя, частка маіх аднакласнікаў, якім няспешна да Харона, наведала зноў сваю *Alma Mater*.**

# ПАСЛЯ ПАЎВЕКУ

Нагодай для спаткання стаў з'езд выпускнікоў. Прызнаюся, што я выцярушыўся даволі рашуча з былой кампаніі, сустракаючы на працягу мінулага паўвечча бадай не больш пяці матуральных таварышаў з агульнага ліку бадай сямідзесяці. Таму і суправаджала мяне хваляванне, няўпэўненасць, ці ўдасца мне пазнаць той малады калісь народ, якому такія шматлікія гады наогул прыносяць цалкам новую маску ў выглядзе павуціння маршчын на тvары і мноства серабрын вакол яго...

Пазнанне тое аказалася не надта складаным. Усяго з маіх аднакласнікаў з'явілася пятнаццаць душ; некаторыя з аднакласніц ухітрыліся выглядаць нават маладзей чым калісь. А ў агульнасці — на з'езд з'явіліся тыя асобы, якія калісь складалі класавы элітарыят, якія найбольш запаміталіся і іх было нескладана атаясаміць нават у шматлюдным рознагадовым натоўпе. Мова тут пра дамінантны ў той нашаліцэйскі час прыгожы пол, бо хлопцаў у Ліцэі было тады столькі, што кот наплакаў; падрастаючае мужчынства Гайнаўшчыны ў тую эпоху валіла навалам у „Завадоўку".

З'езд, як падае слоўнік, гэта назоўнік вывадны ад дзеяслова з'ехацца: сабрацца ў адно месца, прыехаўшы з розных. І вось гэты наш вельмі нагадваў тыя з'езды, пра якія ў мой ліцэйскі час пісалі газеты вялікімі літарамі на сваіх галоўных старонках. Праўда — былі і адрозненні: калісь выконваючы ролю гаспадара Гамулка і гасцюючы Хрушчоў прамаўлялі на фармальна розных мовах, хаця *meritum* тых спічаў было тоесные. На сёлетнім гайнаўскім з'ездзе глабалізацыя завалодала так мерытарычнай, як і фармальнай праявамі прэзідымнага аратарства. А гэтую глабалізацыйную ўзнёсласць уквецiў яшчэ велічаючы Ліцэй чанстахоўскі дыфірамб на вельмі прыгожай чанстахоўскай мове.

Супрацьдзеяннем усёпаглынаючай глабалізацыі мае быць шматкультурнасць — цяпер гэты *topic* у вярхах афіцыйнай моды. Не абышлося без яе, шматкультурнасці, і ў забаўляльнай частцы з'езду, хаця ніякага афіцыёзу з варшаўкі, якому б трэба было тою шматкультурнасцю прыміляцца, не было і ў паміне; усе чыны былі тутэйшыя. І вось гэтая шматкультурнасць выклікала вельмі цікавую рэакцыю публікі. А публіка тая — у галоўным тутэйшага мужыцкага выводу з сама менш сярэдняй адукацыяй — гэта ўжо панства паводле тутэйшага менталітэту, пагружанае па вушы ў штодзённым панскамоўі. І вось калі са сцэны раздалася моўная праява будзённасці, той агульны гукавы фон, які штодзённа стварае ўключаны ўвесь час тэлевізар, на публіцы раздалася разрадка інфармацыйнага напружання. Яно, апошняе, у агульнасці падобнае на напружанне электрычнае, толькі тут заміж катодаў, анодаў і клавольтаў, маецца дачыненне з вуснамі, вушамі і мегабайтамі. Зал напоўніўся стрыманым вяшчальным святкаваннем, дзе даўнія-даўнія знаёмыя абменьваліся гарачымі інфармацыйнымі падарункамі.

Мастацкую частку завяршыла „Знічка", вітаючы публіку песняй пра *родную* Беларусь. Песні гэтага жанру ствараліся ў той час, калі глабалізацыя набірала разгону на беларускай прасторы. Цяперашні гэткі спеў, калі тую *Родную* стаў па-стаханаўску мацней мацаваць у глабалізацыйную мовамолку яе тамашні найгарачэйшы інтэрнацыяналіст, прагучаў мне нават больш сумна чым згаданы чанстахоўскі дыфірамб.

Пасля мастацкай часткі ўдзельнікі з'езду расцярушыліся па групах. Маім ліцэйскім равеснікам выпаў гонар трапіць у групу ліцэйскіх дыназаўраў. Некаторыя эпізоды ліцэйскага жыцця яшчэ ў памяці поўнакалерныя, а ўжо куды загнаў не так, здавалася б, даўніх маладзёнаў бязлітасны Час...

Сустрэчу нашай групы ліцэйскіх старажылаў мела ўдастоіць навучаўшая нашае пакаленне беларускай мове, а ў парывах і рускай, Ніна Вішнеўская. На вялікі жаль, прыбаставала крышку ейнае здароўе. Гэта віна не толькі згаданага Часу, але і віна саміх навучэнцаў. Не скажу, што мы, тадышнія тынейджэры, не рваліся да навукі, крыху рваліся на тое райскае дрэва пазнання, але можа не так у напрамку граматыкі, літаратуры ці іншай геаметрыі, як у напрамку фігавых таго дрэва лісточкаў, падрываючы такім чынам здароўе руплівага педагагічнага персаналу. На з'ездзе не было нікога з тых настаўнікаў, што вучылі маіх ліцэйскіх равеснікаў, хаця яшчэ не ўсе яны аддалі свае аболы ў Харонаў банк...

У сеніёрскай групе сабралася нас пад сорак чалавек. Пасадзілі ўсіх па крузе і мадэратарка папрасіла нас коратка пра сябе расказаць. Людзі гаварылі як умелі. Некаторыя пералічвалі свае біяграфіі па капеечцы — дакладна па-бухгалтарску, іншыя завязвалі свае жыццёвыя дарогі ў сказ-два. У ліку жыццёвых поспехаў называлі дачы на Семяноўцы ды дзяцей і ўнукаў. „Рольс-ройсамі", палацамі ці мужамі-жонкамі хвальбы не было; мо гэтай катэгорыяй будзе хваліцца нейкае пазнейшае пакаленне эпохі свабоднага прадпрымальніцтва. Майму ж равесніцтву давялося ў наш найлепшы час радавацца эпохай будаўніцтва светлай будучыні...

Людзі гаварылі як умелі, прымяняючы розныя камунікацыйныя коды. Адзін намагаўся гаварыць паводле ГОСТа (Государственный стандарт), пару асоб гаварыла на гаворцы сваіх родных мясцовасцей Гайнаўшчыны, але большасць — паводле PN (Polska Norma). Магчыма, што такім чынам захацелі яны паказаць панскасць і аднач асна прыхаваць сваю „дзеравеншчыну". А мова ж нашых ваколгайнаўскіх вёсак надта багатая, тут у нас ядро славянскай Еўропы, сапраўдны скарб моваэнаўцаў. Гэта санктуарый, у якім можна знайсці часцічкі-рэліквіі амаль усіх славянскіх моў, што дазваляе некаторым мясцовым калумбам адкрываць тут свае амерыкі. Часам, калі згадваецца квяцістае аратарства Лукашэнкі, находзіць мяне падазрэнне, што ён можа выводзіцца з нашага падпушчанскага Пасталова ці Сарочай Ножкі, а згадка пра Шклоў у ягонай біяграфіі з'яўляецца звычайнай памылкай ці фальшыўкай... Тутэйшы ж, крыху такім багаццем разгублены прыпушчанскі народ рвецца ў агульнасці навонкі, да ўсялякай панскай мовы. І вось сярод нашых ліцэйскіх сеніёраў запанавала ў адзін момант такое магутнае панскамоўе, што мне ўпершыню давялося пачуць, як пшэкае нават мой траюрадны Аляксей Харкевіч...

Магчыма, што такі паланафільскі ўздым у зале выклікала мая аднакласніца Галіна, у ліцэйскі час Лявіцкая. Яна родам з Гайнаўкі і яе роднай мовай мова Міцкевіча (?), Ажэшкі (?), Агінскага (?). Мне выбар гайнаўскага белліцэя здаваўся калісь безальтэрнатыўным, а яна да выбару сярэдняй школы падышла даволі крытычна і рашылася прыняць беларускі выклік. І яна сёння, задаволеная сваім тадышнім выбарам, не шкадавала найцяплейшых слоў нашаму Ліцэю, бо тут знайшла найбольш выгадную сваёй чуллівай душы чалавечую дабрыню.

Частка былых ліцэістаў наведала гайнаўскія могілкі, дзе завяршылі сваю зямную вандроўку ліцэйскія настаўнікі. У вугле каталіцкіх могілак у нейкай сямейнай магіле спачыла Лізавета Кшэўская, для вучняў Еліза Іванаўна, якая калісь навучала маіх аднакласнікаў нямецкай і рускай мовам. Ведала яна сем моў. Нарадзілася ў нямецка-рускай сям'і ў Рызе, дзе да родных моў давучыла яшчэ мову латышскай глыбінкі, у школе давучыла яшчэ латынь і французскую мову, а прыехаўшы ў Гайнаўку польскую і беларускую.

На праваслаўных могілках у падобнай сямейнай магіле спачыла Анастасія Тропак, якая ў мой час загадвала Ліцэем. Была гэта непрыкметная звонку жанчына, але ў школе строгая з выгляду ў адносінах да навучэнцаў, якія з-пад вясковай бацькоўскай апекі, трапляючы ў нават такі вясковы горад як Гайнаўка, маглі набірацц крыху гарэзніцтва. А яна ж, гісторык па адукацыі, напэўна добра ведала, чаго нарабілі вандалы і іншыя гуны, калі калісь уварваліся ў Еўропу...

У з'ездаўскі вечар шмат былых белліцэістаў спаткалася на вечарыне. Мне давялося там адсутнічаць, але не шкадую гэтага, бо асноўнай інфармацыяй, якую вынеслі з тае сустрэчы яе ўдзельнікі, была гадзіна іхняга з той вечарыны вяртання. Але ўжо на сустрэчу ў Тапіла, якая адбылася ў другі дзень з'езду, я забраўся. Варта было. Варта было ў першую чаргу праехацца вузкакалейкай па пушчанскай глыбінцы. З вагонаў-платформаў як на далоні было відаць фларыстычнае багацце Пушчы, можна было адчуць подых недалёкага Палесся. Аднак від мноства непрыбраных дрэў наводзіў нейкую горыч. Жыхары Гайнаўкі вымушаны для сваіх печаў купляць вугаль, які пры дамінуючых заходніх вятрах нясе з дымам у Пушчу не найлепшыя дары, а чысты апал гніе побач. Прэм'ер Туск на днях абяцаў сілезскім шахцёрам, што прыме меры дзеля прамоцыі польскага вугалю; магчыма, што зноў з дапамогай лозунгаў пра ахову пушчанскай экалогіі.

З пэўным непакоем прыходзіцца глядзець і ў ліцэйскую будучыню. Ліцэй ужо іншы чым быў у мой час, але некаторыя змены гэта натуральны ход падзей. Мяне трывожаць некаторыя іншыя, пазаліцэйскія змены. У мой час штодзённай асноўнай „брамай" у Ліцэй была гайнаўская чыгуначная станцыя. Цяпер яна выглядае як выглядае. Падобна ж пустуюць і асноўныя школы ў шырокім вясковым наваколлі, з якіх білі дэмаграфічныя ліцэйскія крыніцы...

Але быў і цёпленькі акцэнт мерапрыемства. У Тапіле постматуральны народ атрымаў крыху таго цудадзейнага сродка, які, быццам славуты Зігмунд Фрэйд, скідае свядомасныя абалонкі чалавечай душы і выносіць наверх глыбінную людскую падсвядомасць. А там, аказваецца, у нашага панскамоўнага народа сядзіць яшчэ спеўная беларуская душа...

Цёпленька таксама, што Ліцэй аглянуўся ў мінулае, азірнуўся на сваіх выпускнікоў. І за гэтую хвіліну ўвагі мая суб'ектыўная падзяка. У першую чаргу маім дзелавым аднакласніцам, у другую чаргу іх супрацоўнікам з арганізацыйнага калектыву, у трэцюю — усім тым, што з'явіліся на з'езд каб можна было іх пачуць і пабачыць. І ў пазачарговую чаргу асаблівая дзякую цяперашнім вучнёўству, вучыцельству і адміністратарству Ліцэя, бо ж гэта яны ўзялі на сябе галоўную арганізацыйную нагрузку мерапрыемства. Сардэчнае вам усім дзякуй!

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# У ціхай Дуброве на беларускай мове

**Дуброва — калісь Гродзенская, цяпер Беластоцкая. У песні „Беластоцкі край" названая яна ціхай. Гэта сапраўды так. Ева — саракагадовая жыхарка мястэчка сцвярджае, што тут надта ціха. „Гэтая цішыня часам невыносная", — скардзіцца яна.**

Дуброўскі маразм на нейкі час прыпыніў фэст, сарганізаваны Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Праходзіў ён у апошні дзень траўня на тамтэйшай спартыўнай плошчы і выпаўніў першы з двух „Дзён Дубровы". Некалькі хвілін да яго пачатку з цэнтра гарадка направілася туды напрасткі невялікая група аматараў беларускіх спеваў рознага ўзросту.

Колькасць людзей сабраных перад мабільнай сцэнай не была надта імпазантнай, хаця надвор'е паспрыяла выдатна.

„Беларускай песняй цікавяцца тут пераважна беларусы", — прызнаецца дырэктар мясцовага дома культуры Мацей Сулік.

Пажылая Галіна Севастыяновіч, родам з паддуброўскай вёскі Круглэ, лічыць сябе полькай. Каб лепш убачыць і пачуць выступаючыя калектывы, заняла яна месца пад самой сцэнай. Жанчыну прыцягнула сюды беларуская музыка і сантымент да мовы, якой карысталася, жывучы яшчэ ў роднай вёсцы. Яна добра помніць спевы на падхатніх лавачках. „Цяпер не спяваю, — прызнаецца яна, — няма нагоды, але люблю паслухаць".


Маладыя спявачкі са школы ў Новым Двары Аня Стасюлевіч і Марта Куц

Сярод публікі ўвагу на сябе звярнула жанчына пяцідзесяцігадовага ўзросту ў кампаніі маладой мамы, мабыць дачкі ці нявесткі, і дзіцяці ў калясцы. Якраз сваё выступленне завяршала мінская „Купалінка". Замест апладысментаў жанчына з'едліва прамовіла, што не падабаецца ёй гэтае „руске". Я паспрабавала даведацца, што менавіта не спадабалася жанчыне, але нічога апрача стыгматычна гучнага „руске, руске" ад яе не ўдалося выцягнуць. Што цікава, гэтая ж жанчына так і не думала развітвацца з беларускай музычнай прапановай вечара. Доўгія месяцы прыйдзецца ёй чакаць, каб зноў пачуць тут „руске".

Як прызнаецца дырэктар мясцовага дома культуры, новыя ініцыятывы павінны выходзіць не ад яго, а толькі ад грамадства. „Так як гэта робіць беластоцкая АББА, — кажа ён, — якая прыехала сюды некалькі месяцаў таму з дзіцячым спектаклем. У нас няма ініцыятараў беларускай справы".

Заснавальнік Таварыства культуры мовы Ежы Бяламызы здаецца не пацвярджаць гэтай тэорыі. Менавіта ён з'яўляецца адным з арганізатараў дуброўскіх сустрэч з беларускай культурай. „Беручы пад увагу характар Дуброўшчыны, такія сустрэчы патрэбныя, — гаворыць спадар Бяламызы. — Добра ведаць культуру суседняй дзяржавы. Мы ўсе славяне і маем многа чаго супольнага, у тым ліку і музыку. Кракаўскі бард Алёша Аўдзееў калісь рассакрэціў, што «po pewnej działce, w zależności od odporności, wszyscy zaczynają śpiewać po rosyjsku»", — падсумоўвае спадар Ежы.

Ежы Бяламызы можа пахваліцца супрацоўніцтвам з Варшаўскім універсітэтам у галіне выдавання публікацый пра гаворкі паўночна-ўсходняй Польшчы. Толькі што свет пабачыла кніжка „Дыялог пакаленняў — Алецкі павет". Неўзабаве завершыцца праца над такім жа выданнем пра Сувальскі павет, а з канцом ліпеня паявіцца кніжка пра Сакольскі павет. Цяпер Таварыства стараецца здабыць фінансавыя сродкі на правядзенне дэталёвых моўных даследаванняў Дуброўшчыны і на іх асобнае выданне. Даследаваць мову будуць настаўніцы і вучні мясцовага комплексу школ.

У гэтым годзе на сцэне ў час БГКТоўскага фэсту побач з вядомымі беларускімі калектывамі Падляшша і Беларусі выступілі маладыя спявачкі са школы ў непадалёкім Новым Двары. Аня Стасюлевіч і Марта Куц з вялікім поспехам пачалі сваю прыгоду з беларускай песняй. Таленавітыя дзяўчаты сталі лаўрэаткамі другога і трэцяга месцаў у сёлетнім конкурсе дзіцячай беларускай песні. Іх удзел — заслуга настаўніцы, вядомай беларускай дзяячкі Іаланты Гецьман. Да конкурсных выступленняў рыхтавала дзяўчат прафесіянальная музыкантка Ліліяна Жултко.

„Ніколі раней не чулі мы ні беларускай мовы, ні песень, — прызнаюцца спявачкі. — Бывала, што дзяды ад часу да часу ўваткнуць якое слова на гаворцы, але ж яна зусім іншая чым беларуская мова. Бацькам гэта ўжо ўвогуле не здараецца". Навадворскія школьніцы прызналіся яшчэ, што беларускія песні ім спадабаліся і паціхеньку будуць уключаць іх у свой рэпертуар.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

TOGETHER FOR BELARUS

## http://forbelarus.org

Чалавечая прырода такая, што калі з імпэтам пачынаеш нейкую справу, маеш шчырую ўпэўненасць, што так добра як ты ніхто дагэтуль не рабіў, калі і рабіў увогуле. Прыкрага ў гэтым няма нічога, наадварот, такая ўпэўненасць выклікае павагу ў добразычліўцаў. Праўда, некаторых пачаткоўцаў іншым разам так „заносіць", што, здаецца, яны перастаюць адэкватна ўспрымаць нават недалёкую гісторыю. Адным з прыкладаў такога стаўлення можна знайсці на сайце „Разам за Беларусь", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://forbelarus.org**.

На першы погляд сайт выглядае даволі прывабна. На галоўнай старонцы месціцца банэры розных грамадскіх арганізацый, якія тым ці іншым чынам выступаюць за дэмакратычныя пераўтварэнні ў Беларусі. Іх даволі многа і знаходзяцца яны з левага боку цэлага выяўлення.

Калі заставацца на галоўнай старонцы, то тут мы ўбачым, што сайт мае тры моўныя версіі — акрамя беларускай, яшчэ польскую і англійскую. Праўда, паведамленні на дзвюх апошніх не абнаўляліся ад летась. Беларуская версія мае апошнія навіны, датаваныя сёлетнім красавіком.

Варта адзначыць, што ўладальнікі сайта даволі крэатыўна падышлі да яго насычэння. Так, у левым верхнім вугле месціцца інтэрактыўная карта Еўропы з пазначэннямі ўзгаданых раней арганізацый. І калі цікаўны карыстальнік клікне на адно з такіх пазначэнняў, то перад ім раскрыецца інфармацыя аб той арганізацыі, што знаходзіцца ў абраным горадзе.

З правага боку ідзе стужка навін, якія для ўладальнікаў сайта падаліся найбольш важнымі. Яны з большага носяць палітычна-сацыяльную накіраванасць.

Даволі падрабязнае апісанне сутнасці кампаніі „Разам за Беларусь" можна знайсці ў рубрыцы „Пра кампанію". Яна чамусьці знаходзіцца на апошнім месцы ў цэлым пераліку выйсцяў на рубрыкі, змешчаныя ўверсе цэлага выяўлення пад загалоўкам.

„Пасля выбараў прэзідэнта 2010 года ў Беларусі пакінуць краіну была вымушана вялікая колькасць беларусаў. З таго часу ў Еўропе пачаўся працэс запачаткавання беларускіх замежных цэнтраў — прадстаўніцтваў беларускай палітычнай эміграцыі. На дадзены момант можна казаць пра ўстойлівую дзейнасць такіх цэнтраў у Польшчы, Літве, Чэхіі, Англіі, Эстоніі Бельгіі, Украіне", — смела распавядаецца ў данай рубрыцы. З тае прычыны ўзнікае адно што здзіўленне — няўжо ўладальнікі і ідэйныя натхняльнікі сапраўды лічаць, што цэнтры беларускай палітычнай эміграцыі пачалі з'яўляцца толькі тры гады таму? А ці былі раней людзі, якія з палітычных меркаванняў былі вымушаны пакінуць Беларусь? Згодна з меркаваннем тых, хто „Разам за Беларусь", такія людзі калі і былі, то ніякіх арганізацый не стваралі. Насамрэч гэта не так — стваралі і не адну. І хочацца параіць удзельнікам кампаніі больш уважліва ставіцца да сваіх выказванняў, і не ляніцца спытаць абазнаных людзей, якія арганізацыі ўзнікалі ў колах беларускай палітычнай эміграцыі цягам апошніх хаця б 15 гадоў.

Што ж тычыцца мэтаў кампаніі „Разам за Беларусь", то яны досыць агульныя — напрыклад, „кансалідацыя грамадскіх, палітычных арганізацый і асобаў дзеля захавання незалежнасці, суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Аўтар легендарнай паэмы

# 180 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Вераніцына



У гэтым месяцы спаўняецца 180 гадоў з дня нараджэння адной з самых загадкавых асоб беларускай гісторыі. Пра яго дзейнасць і жыццё вядома мала. Канстанцін Вераніцын — удзельнік літаратурнага жыцця ў Беларусі ў сярэдзіне XIX стагоддзя, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і верагодны аўтар знакамітай сатырычна-гумарыстычнай паэмы „Тарас на Парнасе". Нарадзіўся ён 13 чэрвеня 1834 г. у мясцовасці Астраўляны (тагачасны Віцебскі павет, цяпер Гарадоцкі раён). Паходзіў з прыгонных сялян памешчыкаў Бондыравых. Спачатку яго прозвішча было Васільеў, паколькі Васіль звалі яго бацьку. У 1851 г., атрымаўшы вольную, ён прыпісаўся да гарадоцкіх мяшчан і выбраў сабе прозвішча Вераніцын.

Вучыўся Вераніцын у Гарадоцкім прыходскім вучылішчы, Віцебскай гімназіі (1845-1852), дзе сябраваў з вядомым пазней віцебскім паэтам Ягелі Вулем, у Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі (1852-1854). З акадэміі яго ў 1854 г. выключылі, але гэта даравітага гарадоцкага хлопца не спыніла. У 1857 г. як пансіянер Вольнага эканамічнага таварыства адразу паступіў на трэці курс, а ў 1859 г. бліскуча (у спісе выпускнікоў яго імя стаіць першым) скончыў вядомы ў той час Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Выпускнік напісаў дысертацыю „О белорусском хозяйстве" (невыпадкова, відаць, у паэме „Тарас на Парнасе" „багі хазяйства водзяць"). Пэўны час кіраваў прыватным маёнткам, збіраўся працаваць у міравых установах Магілёўшчыны, але намер не здзейсніўся. У 1863-1874 гг. Канстанцін Вераніцын жыў і працаваў у Пецярбургу, у 1874-1879 гг. працаваў выкладчыкам у Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, але з-за хваробы быў змушаны пакінуць гэтую працу. З 1880 г. служыў у Пецярбургу ў апараце Міністэрства шляхоў зносін, меў чын стацкага саветніка. Жыў у доме, дзе ў розны час пражывалі знакамітыя расійскія літаратары Някрасаў, Тургенеў, Чарнышэўскі. Захоўваў сувязі з Віцебшчынай, куды выязджаў у час адпачынку. У 1900 г. выйшаў у адстаўку ў чыне стацкага саветніка.

У рукапісных сшытках фальклорных і літаратурных твораў Аляксандра Рыпінскага яму прыпісваюцца паэмы „Тарас на Парнасе" (тэкст з пазнакай: 1855, 15 красавіка, Гарадок) і „Два д'яўлы" (з пазнакай: 7.4.1860, Масква). Моўныя асаблівасці і рэаліі несумненна сведчаць пра сувязь апошняга твора з Віцебскам, а таксама пра тое, што аўтарства абедзвюх паэм належыць адной і той жа асобе. На карысць аўтарства Канстанціна Вераніцына сведчыць таксама і яго біяграфія і той факт, што Віцебшчына была значным асяродкам беларускай культуры.

Дакладная дата смерці Вераніцына невядомая, найверагодней, што памёр ён у 1904 г. у Пецярбургу. У Беларусі яго імя вядома кожнаму з сярэдняй школы, у праграме якой вывучаецца „Тарас на Парнасе". Памяць пра верагоднага аўтара і яго знакаміты твор ушанаваная. У 2001 г. на радзіме Вераніцына ў Астраўлянах і раённым цэнтры Гарадку пастаўлены мемарыяльныя знакі. Там можна пабачыць памятныя валуны з адпаведнымі шыльдамі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Святкавалі дзень інваліда




4 чэрвеня гэтага года ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы (Гаўнаўскі павет) пенсіянеры арганізавалі святкаванне Міжнароднага дня інваліда. Удзельнічалі ў ім войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, кіраўнічка Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі Альжбета Патонец, дырэктарка Гміннага асяродка культуры Галена Рэент, кіраўнічка бібліятэкі ў Нараўцы Анна Стульгіс, кіраўнічка святліцы ў Нараўцы Нэля Харкевіч, гмінны радны з Міклашэва Ян Драўноўскі і солтыс Новага Ляўкова Янка Целушэцкі.

Мерапрыемства вяла старшыня Гміннага аддзела Польскага саюза пенсіянераў (ПСП) у Нараўцы Ядвіга Карпюк. Сабралася сорак чалавек з усяе гміны.

Найперш была мастацкая частка пад загалоўкам „Каб усе кветкі цвілі" ў выкананні вучняў Комплексу школ у Нараўцы. Падрыхтавалі яе настаўніцы Эва Шалынская і Марыя Леўша.

Затым удзельнікі святочнай сустрэчы заселі за сталы з салодкім пачастункам — піражным, цукеркамі, бананамі і вінаградам. Пілі гарбату, каву і ахаладжальныя напіткі. Былі зычанні здароўя і доўгіх гадоў жыцця для ўсіх пенсіянераў ад войта і кіраўнічак гмінных аптэкунчай і культурна-асветных установаў. Старшыня ПСП Ядвіга Карпюк прачытала гумарыстычны верш пра пенсіянераў. Нэля Харкевіч уручыла прыгожыя віншавальныя граматы з малюнкамі і вершам.

Панавала прыемная атмасфера. Пенсіянеры расказвалі пра свае зацікаўленні і заняткі ў вольны час. Павел Леўша з Нараўкі раіў чым карысна займацца ў старэйшым узросце. Распавёў, якую вартасць маюць захаваныя прадметы нашых продкаў, напрыклад, старыя сямейныя фотаздымкі, дзедава брытва ці бабуліна хусцінка і акуляры. Датыкаем іх і яны прыводзяць цёплыя ўспаміны радаснага даўняга. Глядзім здымкі і бачым на іх, якімі тады мы былі малымі і чым займаліся. Варта захоўваць фотаальбомы для сябе і наступных пакаленняў. Яны — памяць пра нас.

На заканчэнне мерапрыемства традыцыйна ўжо арганізавалі фантавую латарэю і віктарыну. Важна пры ўсім гэтым, што пенсіянеры сустрэліся, пабачыліся, пагутарылі на розныя тэмы. Сёлета — як адзначыла спадарыня Ядвіга — такіх сустрэч было ўжо пяць, у тым ліку былі і тры танцавальныя вечарыны ў нараўчанскіх рэстаранах.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

# Летам
## над Семяноўкай

Летам ля Семяноўскага вадасховішча найбольшае сканцэнтраванне птушак, бывае вялікі гоман. У летняй міграцыі дамінуюць кнігаўка, квакач і іншыя балотныя птушкі, а таксама ашыйнікавая севачка. Вялікае вадасховішча, якое называюць Семяноўскім возерам, палюбілі птушкі, звязаныя з адкрытай вадой на марскіх прасторах, між іншым, марская севачка, марскія качкі і гагары.

Летам над Семяноўкай кормяцца белыя і сівыя чаплі ды чорны бусел. У гэтым перыядзе часу можна тут сустрэць рэдкія віды птушак, між іншым, пурпурную чаплю, таўстадзюбага арла, канюка, крачку (мартына), крыклівага арла, падорліка, чмеляеда і гадаеда, а таксама ўсе віды чаек. Пры плаціне ў купінах трыснягу групуюцца пліскі, ластаўкі і шпакі.

Увечары на начлег ля вадасховішча прылятаюць тысячы шпакоў, берагавых ластавак, канаплянак ды жоўтых і сівых плісак.

У чэрвені ў рэках і азёрах не скончаны яшчэ нераст у плоткі і ляшча, а карась і карп у чэрвені толькі пачалі адкладваць ікру, таксама як і сом.

У большасці вадаплаўных птушак вывеліся птушаняты. Клапатлівыя бацькі безупынна носяць у гнёзды мушак, матылькоў, жучкоў, слімакоў, вусеняў. Сядзяць малыя ў гняздзе, шырока разявіўшы рот, і просяць есці. Толькі давай і давай! Хапае бацькам работы!

У вывадкавых птушак — качак, гусей і многіх іншых птушаняты становяцца самастойнымі вельмі рана. З дня нараджэння яны бегаюць усюды за маткай і вучацца самі здабываць корм і хавацца ад небяспекі. Гняздо вывадкавым птушкам неабходна толькі для выседжвання яек. Ледзь толькі птушаняты з'явяцца на свет, патрэба ў гняздзе адпадае. Таму гнёзды ў вывадкавых птушак простыя, нескладаныя. Знаходзяцца яны на зямлі, у невялікіх ямках між травы, пад кустамі, на лузе, на балоце.

Качаняты і гусяняты, ледзь толькі вылупяцца з яйка, адразу самі пачынаюць хадзіць за маткай. На другі дзень пасля нараджэння яны ідуць у ваду, плаваюць між трысця, чароту і асакі, куляюцца дагары нагамі і самі здабываюць сабе корм з дна вадаёма. Вадаплаўныя ядуць зялёную траву, карэнні вадзяных раслін, чарвякоў і жабак.

У цёплы летні вечар над вадой снуюць падзёнкі, падобныя да вялікіх камароў з доўгімі ножкамі. Падзёнкі — прывабная здабыча для рыбы. Акуні, плоткі, ляшчы, язі выскакваюць з вады, каб на ляту схапіць падзёнку ў паветры.

У ціхай, нагрэтай сонцам вадзе плаваюць сярод зараснікаў каля берага залацістыя карасі. Яны кормяцца лічынкамі камароў, дафніямі, тванню і вадзянымі раслінамі.

На карасёў і іншых невялікіх рыб палюе ў адзіночку драпежны шчупак. На самым дне вадаёма, у глыбокай і цёмнай яміне, ляжыць, як калода, вусаты сом. Ён падпільноўвае тут здабычу. Корпаючыся ў глеі ці хаваючыся ў зарасніках, праводзіць летні час лянівы лінь. Пад карчом каля берага, у цёмным і зацішным месцы, схаваўшы галаву ў нары, стаіць нерухома мянтуз.

Маладыя акуні чародкамі плаваюць між трысця, а буйнейшыя з іх абследуюць у пошуках здабычы глыбокія мясціны, хапаючы без разбору дробных рыбак, чарвякоў, насякомых і рачкоў, і ўсё, што можна праглынуць.

У сярэдзіне лета ў ліпені некаторыя птушкі, у тым ліку ластаўкі, гадуюць у гнёздах другі вывадак птушанят. У большасці дробных птушак дзеці выраслі і пакінулі гнёзды. Яны вучацца лётаць над вадой і над берагамі, лавіць здабычу, збіраць корм, набіраюцца сіл да адлёту ў вырай.

Напрыканцы лета ў жніўні сонечныя прамяні ўжо не такія гарачыя. Яны толькі грэюць, а не пякуць, як у ліпені. Маладыя шпакі чародкамі пералятаюць з месца на месца, перабіраюцца з лугу на луг, ад рэчкі да рэчкі, трымаючыся паўднёвага напрамку. Калі надыдзе канец лета, птушкі паляцяць у цёплыя краі. І мы іх не ўбачым да наступнай вясны.

**(яц)**

# Адгаданка

1. лоб, 2. спінная частка тулава, 3. ежа, 4. заплечны рэчавы мяшок, 5. бакавы адростак ад ствала дрэва, 6. прывабліванне звяроў або птушак падробленым голасам, 7. вядзьмарная баба, 8. порт на ўсходзе Лігурыйскага мора, 9. кітайскі рубель, 10. Сяргей, беларускі археолаг з Беласточчыны (1884-1937), 11. Васіль, аўтар „Пожні", 12. захоўванне фізічным целам кінетычнага стану, пасіўнасць, 13. лес з альшынай, 14. жаночае ўпрыгожанне для прыколвання спераду да вопраткі, 15. службовая асоба якая вядзе следства, 16. наплываючыя марскія хвалі, 17. валакністая рэч для апрацоўкі на калаўротку.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афрыканская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | | | | | | | | | | | 2 | |
| | | | 3 | | | | | | | | | | 4 | | | | | |
| | | | 5 | | | | 6 | 7 | 8 | | | | | 9 | 10 | | | |
| 11 | 12 | | | | | 13 | | | | | | | | | | | | 14 |
| | | | | | | | 15 | | 16 | | | | | 17 | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 20 нумара**

Лішай, дрызіна, бондар, еўра, полымя, печ, пойма, працэс, Уайльд, Гальшаны.

Рашэнне: **Добрае імя найлепшай спадчынай**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 15.06 — 21.06

**(22.03. — 20.04.)** Не кожная з тваіх мараў зрэалізуецца, але ёсць шанцы, каб хоць некаторыя з іх удаліся. Пасля палымянага пачуцця можа паявіцца ахалоджанне; магчымыя праблемы ў каханні з-за зайздрасці ці здрады; убачыш рысы на ідэальнай сувязі. Больш слухай, менш гавары. Пакуль не думай аб змене працы.

**(21.04. — 21.05.)** Твае рашэнні будуць трапныя. Але хатнія справы могуць пайсці з цяжкасцю. Дома цяжкая праца, а вынікі няпэўныя (канчаткова ўсё ўдасца, вернецца да нормы). Здароўе добрае, але будзеш мець схільнасць аб'ядацца, і што за гэтым ідзе — можаш паправіцца. Добрыя перспектывы на працы, сустрэнеш прыхільных і падмацоўваючых цябе людзей.

**(22.05. — 22.06.)** Да 17.06. не паддайся круцялям, дзейнічай разумна, без эмоцый. На палагоджанне канфлікту ў пары найлепшыя кампліменты, мілы прэзент. Ды агулам гэты чэрвень — ненайлепшы на любоўныя сустрэчы... Але калі выбярэшся з кімсьці ў падарожжа, усё будзе добра і па плане. На працы будзеш рабіць за трох, а паразы перакуеш у поспех.

**(23.06. — 23.07.)** Зменіш сваё стаўленне, што прынясе табе палёгку ў жыцці. Калі здарыцца табе зрабіць памылку, хутка яе паправіш. Дома не адтэрміноўвай спраў, бо можа тады быць нявесела. Не бойся нават рамонту! Адчуваеш нічым неабгрунтаваны неспакой? Прыслухайся да свайго ўнутранага голасу: магчыма, твая падсвядомасць спрабуе паведаміць пра тое, што ўвесь час выслізгвае ад твайго погляду. Правільнае рашэнне, неабходнае для ажыццяўлення якой-небудзь мары, можаш убачыць у сне.

**(24.07. — 23.08.)** Могуць табе зашкодзіць лішак энергіі і нервовасць; будзь больш аб'ектыўным і не разлічвай на лёгкія прыбыткі. Мілая атмасфера паміж сябрамі; можаце пачаць нейкую супольную дзейнасць, неабавязкова камерцыйную. Здароўе някепскае, але дбай аб свае ныркі і пячонку.

**(24.08. — 23.09.)** 16-20.06. атрымаеш вельмі добрыя весткі, дастанеш падтрымку, аб якой нават ты не марыў! Будзеш вельмі пераканаўчы, захопіш за сабою іншых, а для шмат каго станеш паказальнікам і аўтарытэтам. Але ў пары не стаў спраў рубам, бо можа наступіць асабліва бурлівае расстанне. Добра ў косць могуць табе даць дзеці, можаш таксама даведацца чагосьці, што цябе моцна ўсхвалюе.

**(24.09. — 23.10.)** 16-20.06. лёс да цябе шырока ўсміхнецца! Высветляцца спадчынныя і судовыя справы. Распусціш крылы таксама на працы, будуць і дадатковыя заробкі, дзякуючы чаму здзейсніш адну са сваіх запаветных мараў. Запішыся на спынены курс, працягвай навуку — здабытыя цяпер веды акажуцца быць неабходным у будучыні, прынясуць немалыя карысці. Падарожнічай, наладжвай кантакты.

**(24.10. — 22.11.)** Ты адказны і абавязковы, хаця энергіі ў цябе не зашмат. Будзеш карыстацца вялікай папулярнасцю. Вельмі ўдалыя любоўныя і іншыя сустрэчы. Можаш сустрэць каханне свайго жыцця! Але будуць моманты, што цяжка будзе табе дагаварыцца з людзьмі. Не будзь зайздросны. У другой дэкадзе месяца пагражае табе вялікі скандал; хтось будзе варожа да цябе ставіцца, можаш страціць да кагосьці давер.

**(23.11. — 22.12.)** 16-20.06. будзеш творчы, лёгка развяжаш амаль кожную праблему. Сам рашаеш аб сваім лёсе. Пазнаеш сілу, якая цябе вяжа з раднёй. На рабоце будзеш маэстра калектыўнай працы. Дбай аб красу. Правер працу сваіх нырак.

**(23.12. — 20.01.)** На рабоце выходзь перад шэраг, уводзь навінкі, кіруй. Лёгка прафарсіруеш свае задумы. Дапамагай, але не дай сабе ўзлезці на галаву. Не пазычай нікому грошай, бо цяжка будзе іх вярнуць. Недахоп сродкаў можа праваліць нейкі шанц.

**(21.01. — 19.02.)** Не кантралюй і не крытыкуй партнёра. Калі ў сужонстве крызіс, адчакайце нялёгкі час. Маеш шанц узмацніць свае пачуцці. Атмасфера дома можа папраявіцца, будзеш дагаджаць радні і сябрам. Новыя прапановы на працы, вельмі прыцягальныя, карысныя.

**(20.02. — 21.03.)** Ідэальны час на здаванне экзаменаў — будзеш хуткі і талковы. 15-16.06. могуць аднавіцца старыя прыкрасці, не ўваходзь у суполкі, асабліва фінансавыя; не спалучай эмоцый з грашыма. Мілыя і гарманічныя сустрэчы дома. 16-20.06. гарачае каханне, пачуццё можа змяніць тваё жыццё і цябе самога!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Паўналецце Фестывалю царкоўнай музыкі

З 20 па 25 траўня ў Беластоцкай філармоніі прайшоў чарговы, ужо XXXIII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2014”. Агулам выступілі 24 хары, пры тым найболей здалёку прыбыў Хор Аўстралійскай епархіі так званай „зарубежнай” Рускай Праваслаўнай Царквы з Сіднея. Дарэчы, гэты хор заняў першае месца ў катэгорыі парафіяльных хароў.


http://www.festiwal-hajnowka.pl

У журы засядалі праф. Рамуальд Твардоўскі, праф. Лэся Дычко, Анатоль Кісялёў, праф. Бажэна Савіцкая, Ілона Стэпан і а. Юры Шурбак. Найдаўжэйшы стаж засядання ў журы, 31 раз, у Рамуальда Твардоўскага, знакамітага кампазітара, чые творы ахвотна выконваюць удзельнікі фестывалю. У сваю чаргу айцец Шурбак найперш паказаўся як знакаміты дырыжор. Ён далучыўся да журы пасля таго, як шмат гадоў са сваім хорам выступаў на фестывалях, займаючы першыя месцы. Трэба адзначыць, што арганізатары фестывалю і сябры журы слушна ўвялі некалькі катэгорый, бо было б неразумна мераць адной меркай прафесійных, оперных дыпламаваных спевакоў з аматарамі. Гэта ў прыватнасці парафіяльныя хары, дзе другое, за аўстралійцамі, месца заняў хор „Лампада” з Курска, а адно з двух 3-х месц заняў знакаміты грэка-каталіцкі кафедральны хор „Хрызастос” з Браціславы. У катэгорыі „аматарскіх, свецкіх” хароў найвышэйшую ацэнку атрымала Народная харавая капэла БДУ з Мінска пад кіраўніцтвам Аляксандра Мінянкова. Яшчэ адна катэгорыя — „хары музычных школ”, у якой журы найвышэй ацаніла Хор акадэмічнага Коледжа пры Маскоўскай кансерваторыі пад кіраўніцтвам Леаніда Паўлава. З ліку „дзіцяча-моладзевых” хароў 1-е месца заняў хор „Радасць” з Масквы, якім кіруе Таццяна Жданава. Вядома ж, найбольшыя патрабаванні былі выстаўлены да прафесійных хароў і тут найлепшым журы палічыла Кіеўскі камерны хор Нацыянальнага саюза кампазітараў Украіны „Сафія” пад кіраўніцтвам Аляксея Шамрыцкага. Дарэчы, яго, а таксама Таццяну Жданаву, журы палічыла найлепшымі дырыжорамі фестывалю. Гэтая дадатковая катэгорыя цалкам абгрунтаваная. Дырыжор — ключавая асоба. Ён у першую чаргу фармуе хор, падбірае адпаведных людзей. Затым з гэтага набору індывідуальнасцей стварае адзін арганізм паводле свайго музычнага смаку і адчування. Калі назіраю за дырыжорствам, то заўсёды захапляюся тымі, якія не размахваюць рукамі. Іхныя нават самыя малыя, стрыманыя жэсты вакалісты цудоўна разумеюць. Па-мойму, гэта адметнасць найлепшых дырыжораў. Такім мне падаўся Васыль Майсіюк, дырыжор Акадэмічнага хору Усходнееўрапейскага народнага ўніверсітэта імя Лэсі Украінкі з Луцка. Памятаю, што праф. Твардоўскі меў да яго пэўныя заўвагі, хаця гэта не быў папрок, а хутчэй здзіўленне арыгінальным падыходам да аднаго свайго твора.

Разам з кожным чарговым фестывалем у мяне, як слухача ўлюбёнага ў царкоўную музыку, ды і ў музыку наогул, адразу з'яўляецца параўнанне з ранейшымі. Ці павышаецца мастацкі ўзровень? Ці можна казаць аб якасным прагрэсе, бо колькасць хароў пераважна падобная. Заўсёды іх больш за дваццаць і заўсёды гэта знакамітыя калектывы. Вельмі прыемна назіраць за тым, аб чым з вялікім задавальненнем гаварыў ініцыятар і дырэктар фестывалю Мікола Бушко. Галоўным дасягненнем фестывалю ён лічыць тое, што „ў асяроддзі польскага праваслаўя ўзнікла шмат новых хароў з нядрэнным выканаўчым узроўнем: дзіцячых, моладзевых. Яшчэ больш радуе тое, што няма ў Польшчы ніводнага хору, які б нешта сабою ўяўляў, а прытым не меў бы ў сваім рэпертуары кампазіцый царкоўнай музыкі. Тут не мае значэння, які гэта хор — свецкі, каталіцкі ці пратэстанцкі. Самі дырыжоры заяўляюць нам, што самым моцным пунктам праграмы выступаў хароў на Захадзе з'яўляецца менавіта царкоўная музыка. Яна вельмі добра там успрымаецца”, — кажа Бушко. Вось для прыкладу, дзякуючы фестывалю царкоўнымі спевамі зацікавіліся такія хары, як Хор Моладзевага дома культуры з Беластока і Хор лютэранскай парафіі ў Мысловіцах. У іх адчуваецца праблема з правільным маўленнем царкоўнаславянскіх тэкстаў, пра што мне гаварыў пастар Аструшка. Зрэшты, праблемы з вымаўленнем царкоўнаславянскіх назваў твораў былі і ў канфэрансье з Польскага радыё, што крыху рэзала вушы. (Можа ў будучыні варта было б адмовіцца ад яго паслуг?) Аднак у музычным сэнсе выступленні тых неправаслаўных хароў — бездакорныя. Напэўна дырыжоры далі ім польскае тлумачэнне тэкстаў, бо адчуваецца, што яны сапраўды ведаюць і разумеюць што спяваюць. Поўнасцю неабгрунтаваным лічу папрок з боку царкоўнага асяроддзя ў Польшчы, што з прычыны такіх хароў фестываль стаў празмерна «свецкім». Я так не лічу. Гавару гэта не як знаўца царкоўнай музыкі, але як чалавек, які яе проста любіць. Як правіла: любім тое, што ведаем, а непрыязнае стаўленне вынікае пераважна з няведання. Такія хары робяць бясплатную рэкламу праваслаўю. Гэта міжвольныя амбасадары і місіянеры праваслаўя. Зрэшты, праваслаўе павінна дзяліцца з іншымі сваім багаццем, а не зайздросна хаваць яго толькі для сябе. Святло не трымаюць пад прыкрыццём, але ставяць гэтак, каб свяціла вонкі. Дарэчы, як казаў адзін пранікнёны мысляр, „па-сапраўднаму нашым з'яўляецца тое, што аддадзенае іншым”.




Ёсць адзін нюанс, які бадай недасягальны для нецаркоўных, неправаслаўных людзей. Гэта сакральны, літургічны сэнс твора. Няпроста знайсці аптымальную манеру для выканання „Табе пяем” з канца Еўхарыстычнага канона. Там павінна быць адначасова і глыбокая малітоўнасць, і ўзнёсласць, і пафаснасць, і лірызм. „Іжэ херувімы” спакойнае і ўрачыстае, паколькі гэта так званы „вялікі ўваход”. Ён нагадвае вернікам шэсце Хрыста на пакуты і смерць. Таму і выносяцца тады прадметы звязаныя з гэтым: крыж, кап'ё, губку. Хары, якія пераважна спяваюць падчас багаслужбаў, прытрымліваюцца спакойнай манеры. Яны выконваюць творы як малітву, пераважна лірычна, пазбягаюць паскоранага рытму, тае эфектнасці і „канцэртнасці”, у прыватнасці ў выглядзе рэзкіх перападаў ад „піяна” да „фортэ”. Той „канцэртнасцю” зграшылі ўжо ў XIX стагоддзі нават самыя прызнаныя кампазітары царкоўнай музыкі. І гэта пры тым, што гэта былі „царкоўныя” людзі. Факт. Дрэнна, калі кампазітару блытаюцца музычныя жанры. Тая „канцэртнасць”, калі яна некаму не падабаецца, была найманцей заўважная ў інаўгурацыйным канцэрце хору „Кіеў” пад кіраўніцтвам Мыколы Гобдыча. Хор выканаў некалькі найлепшых, новых твораў сучасных украінскіх кампазітараў: Лэсі Дычко, Мыраслава Скорыка, Евгэна Станковыча і Валэнтына Сыльвэстрава. Прызнаюся, што мне нялёгка было зразумець усе музычныя і тэкставыя нюансы, у прыватнасці араторыі Сыльвэстрава, прысвечанай ахвярам Майдана. Аднак публіка разбіраецца ў музыцы, мабыць, лепей за мяне, бо выступленне было ўзнагароджана бурнымі, працяглымі апладысментамі. І гэта пры тым, што, як я даведаўся, хор непараўнальна слабейшы за той з 1990-х гадоў, паколькі з яго адышлі найлепшыя выканаўцы, а новыя, гэта пераважна маладыя харысты, якім яшчэ трэба ўдасканальваць і шліфаваць сваё майстэрства. Малітоўнасць і веру моцна падкрэслівала знакамітая кампазітар і цудоўная, мілая жанчына Лэся Дычко. У пытанні адчування літургічнага сэнсу спеваў ніхто не можа раўняцца з Хорам Кіеўскай праваслаўнай тэалагічнай акадэміі пад кіраўніцтвам Надзеі Купчынскай, хаця і заняў ён другое месца. Я з ацэнкай журы не спрачаюся. Там няма ніводнага выпадковага чалавека. Зрэшты, у выпадку гэтага хору, у ім спяваюць маладыя багасловы, але ж не ўсе могуць імі быць.

У пратаколе журы гаворыцца: „Паводле ацэнкі журы, узровень сёлетняга фестывалю быў вельмі высокі, вартая ўвагі разнастайнасць хароў, якія выступілі ў ім. Вельмі радуе факт шматлюднай аўдыторыі падчас усіх дзён конкурсных слуханняў. Гэта сведчыць аб папулярнасці царкоўнай музыкі сярод дзіцячых, моладзевых, універсітэцкіх і прафесійных хароў. Гэта пацвярджае важную ролю фестывалю, які стаў платформай паразумення пакаленняў, культур і народаў”.Так. Гэта не падлягае аніякаму сумненню. Зрэшты, пра мастацкі ўзровень фестывалю я размаўляў з сябрам журы праф. Рамуальдам Твардоўскім. Я шукаў у яго пацвярджэння таго, што сам адчуваю, хаця і не быў на ўсіх фестывалях. Нават на сёлетнім я не мог паслухаць усіх выступленняў. Тое, што не падлягае сумневу, гэта безупынны прагрэс фестывалю, яго якасны рост. Усе, літаральна ўсе хары — высокапрафесійныя. Пішучы пра пачатак фестывалю, я звярнуў увагу на факт, што ён дасягнуў Хрыстовага ўзросту — 33-х гадоў. Як бы чытаючы ў маіх думках, гэтую фразу выкарыстала і Лэся Дычко. Так. Фестываль прайшоў доўгую дарогу ад няцэлага дзясятка вясковых хароў да вяршынь майстэрства. Тут трэба нізка пакланіцца нястомнаму Міколу Бушку і пажадаць яму поспеху.

**Кастусь БАНДАРУК**

ISSN 0546-1960